PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 46 (1957) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 14 ЛІСТАПАДА 1993 г. ЦАНА 3000 зл.

## СЭНС ВЁСКІ Ў ЯЕ БЕЛАРУСКАСЦІ, ІНАЧАЙ ЁЙ СМЕРЦЬ



У аніводнай з развітых краінаў свету сельская гаспадарка не дае даходу ў нацыянальны бюджэт. Усё толькі дэфіцыт, выклікаиы неабходнасцю даплачваць да працы хлебаробаў. Удзел прадуктаў харчавання ў сусветным таваразвароце складае ўсяго два працэнты. Падлічана, што дастаткова было б, каб паўпрацэнта французаў займалася земляробствам, і накармілі б яны Францыю ды ўсю рэшту Еўропы (акрамя Расіі). Тады іх фермерскія гаспадаркі пачалі б даваць сапраўдны прыбытак, незалежны ад ласкі дзяржавы.

Што з гэтага вынікае? Сельскую гаспадарку падтрымліваецца штучна, за кошт даходнай прамысловасці. Горад корміць вёску, а не наадварот. Феадалізм скончыўся. Пра будучыню народаў вырашаюць не па-даўняму палеткі, не сенакосы, а фабрыкі, тэхніка. Капіталізм. Банкі.

Дык дзеля чаго выдаткоўваюцца мільярдныя сумы, каб гаспадар з трактарам на айчыннай зямлі ўсё ж быў? Пытанне гэтае высвятляецца проста: патрэбна тое дзяржаўнай палітыцы. Эканоміка тут без голасу. Ніхто не хоча заставацца залежным, напрыклад, ад таго ж французскага хлеба, хоць аказаўся б ён таннейшым за свой. Ні Нямеччына, ані Англія, ні скандынавы, ані Італія з Іспаніяй... Бо даволі нейкага канфлікту з Парыжам і твой народ упаткаў бы голад.

З вырошчваннем уласнага збожжа крыху так, як з вырабам менавіта ўласнага ўзбраення, ракетаў, бомбаў. Так сказаць, на ўсякі благі выпадак. Бо, калі б тая ж Еўропа аб'ядналася ў адзін дзяржаўны арганізм, ворныя палі ў ёй эканомна абмежавалі б да Жулаваў пад Гданьскам, сонечнай Турынгіі, пладаноснай Шампаніі, і чарназёмаў Ламбардыі. Усюды па-за імі зашумелі б лясы, гарант здароўя чалавеку.

Гарады на Захадзе дэзінтэгруюцца. Калі ў нашых усё яшчэ кіламетры муроў, то ў іхніх ужо шмат зелені, прасторы, нават невялікіх борыкаў побач цэнтральных вуліцаў. Нам гэта дзіўна бачыць. Мы пакуль не выйшлі з пушчы, хоць і перабудаваліся ў прыбеластоцкія Засцэнкі ці Багноўку. У гэтым, можа быць, наша няшчасце? Бы ў тым анекдоце пра спозненага бегуна на стадыёне, якога пачалі даганяць першыя і тады ён ірвануў да мэты, не даўся абагнаіцца як быццам... Бываюць такія выпадкі, што называецца шчасцем у няшчасці.

Нехта наіўна запытае: чаму тады столькі каштуе харчаванне? Здавалася б, досыць было б павялічыць ураджаі і жывёлагадоўлю, каб мы заселі есці поўнай губою. Не, так не будзе. Таму, што абазначала б гэта прапарцыянальнае павелічэнне тых жа даплатаў — больш хлеба, больш дэфіцыту. Гаспадар і без таго вымушаны прадаваць сваю працу амаль за паўцаны; пабольшыць вытворчасць ён не можа і не павінен, калі не жадае нарабіцца задарма.

У феадалізм так не здаралася, дамінаваў у гандлі хлеб, фальваркі і маёнткі багацелі на продажы пшаніцы, жыта, аўса. Але, настаў капіталізм, які зусім не думае адступіцца на сотні гадоў назад. Сярод іншых яго плюсаў нагляддаецца такі, што перасталі па-сярэднявечнаму выміраць ад голаду цэлыя ваколіцы або народы. Суша ці залівное надвор'е не страшныя. Што як што, а буханкі заўсёды пахацяць у крамах. Няхай сабе і з канадскай мукі. Такога калісьці, у сівую мінуўшчыну, не бывала. Галоднае кананне выкочвала тадышнюю Еўропу прыблізна кожныя пятнаццаць гадоў. Ба, упачатку нашага стагоддзя выгубіла бясхлебіца да трыццаці працэнтаў шведаў, якім мы сёння зайздросцім дабрабыту. Гэта не парадоксы, а змена эпох, спосабу прадукцыі (машына стала важней плуга).

Банкруцтва беднай вёскі каля Бельска ці Гарадка — гэта добры інтарэс эканамічнаму рахунку Польшчы, але кепскі для беларускай нацыянальнай меншасці. Там, дзе яна пакуль трымаецца і сяк-так дыхае, абароніць яе аніякі Лепэр або Цімашэвіч, але менавіта нацыянальная ідэя, рацыі дзеля захавання этнічнага арэалу польскіх беларусаў. У гарадах жа прападаем цалам і душою, разам з капелюхом і чаравікамі, і з псеўдаўкраінцамі...

Калі наш гаспадар думае, што беларускасць пагражае яму жыццёваю катастрофаю, то няхай ведае і запамятае: ён як беларус дакладна нікому непатрэбен, акрамя сваёй сям'і. Ні „лявіцы", ні „правіцы". Адзіны аргумент — гэта не эканамічны, а беларускі аргумент.

САКРАТ ЯНОВІЧ



## Хваляванні (ці толькі) гарадоцкай асветы

Навучанне беларускай мове праходзіць хвалямі праз гарадоцкую Пачатковую школу - раз яно адраджаецца (такая сітуацыя цяпер) ды цягнецца некалькі гадоў, а затым заглухае. Актуальны прыбой пачаўся ў 1992/93 навучальным годзе ды неяк трывае.

Ва ўмовах добраахвотнасці вывучання дзеткамі сваёй роднай мовы кіраўніцтва гарадоцкай "падставоўкі" праявіла не абы-якую дыпламатыю і такт - правяло сярод бацькоў апытанне наконт таго, ці хочуць яны, каб іхнія дзеці вывучалі беларускую мову. Вядома, кажа дырэктарка школы Ніна Маркевіч, што дзіця ў пачатковай школе нічога само не вырашае. Арганізацыя ў школе навучання беларускай мовы зводзіцца да пераканання бацькоў. Бацькі тут па-рознаму стаўляцца. Найгоршы з усіх той варыянт, калі бацькі кажуць свайму дзіцяці: "Рабі як хочаш" - гэта не служыць ні падмацаванню бацькоўскага аўтарытэту, ні, тым больш, аўтарытэту школы.

Тут аўтар дазволіць сабе на два факты наконт аўтарытэту школы са свайго жыццёвага досведу. У сямідзесятыя гады - прынцып добраахвотнасці абавязваў - ані я, ані ніхто з маіх сяброў у "падставоўцы" пра нейкую добраахвотнасць нічога не чулі. Другі факт такі, што пра гэту добраахвотнасць не ведалі і нашы бацькі. Настаўнікі па-просту не бачылі сэнсу ў тым, каб нашым запрацаваным на гаспадарках бацькам дурыць галаву нейкімі законамі і прынцыпамі - кіраўніцтва школы найлепш ведала, хто ў школу ходзіць ды што яму ў гэтай школе патрэбна. Калі фармальна патрабаваліся нават нейкія пісьмовыя заявы, то, думаю, настаўнікі неяк у сваім асяроддзі гэту справу палагоджвалі. Інакш кажучы, прынцып добраахвотнасці вывучання роднай мовы абавязваў, але абавязвала таксама не меншая прынцыповасць з боку настаўнікаў. Беларускую мову вывучалі ўсе - ніхто не скардзіўся, што зашмат у яго занятказ, або што там яшчэ.

Грамадска-палітычная сітуацыя настолькі змянілася, што настаўнікі, няйначай, адчуваюць на сабе пастаяннае падазрэнне асветных улад - калі ўводзіць ужо беларускую мову, то з захаваннем празмернай дэмакратыі. Прынцыповасць настаўніка абмя-

☞ Працяг на стар. 5

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

**List do Waldemara Pawlaka (premiera):**
*Pogardzało żydostwo PSL, teraz nie trzeba iść na kompromisy z UD. Pod wpływem wspaniałych Polaków z PSL będzie się też kształtować prawdziwa socjaldemokracja. Wiele osób z gremium kierowniczego SdRP budzi zaufanie.*

*

**List do Ryszarda Bugaja (Unia Pracy):**
*Gratuluję niewejścia w koalicję SLD — PSL. Komuchy to ludzie o kilku twarzach, a chłop jest chytry i zawzięty. Komuch nigdy nie będzie patriotą, bo to kosmopolita. Chłop również, bo to zachłanność.*

*

**List do Andrzeja Leppera (Samoobrona):**
*Osobiście jestem zafascynowany ideałami, które pan głosi. Jestem oburzony zachowaniem dziennikarzy. Niech pan skończy z nimi. Pan musi im zamknąć usta.*
*(Rzeczpospolita, nr 247)*

**Якія інтэлігентныя людзі пішуць лісты палітыкам! А якія глыбокія і дэмакратычныя думкі ў іх выказваннях. Проста Еўропа!**

* * *

*Niech panowie Miller, Szmajdziński i Cimoszewicz nie zawracają sobie głowy wejściem do NATO, bo pakt militarny to oni mogą zawiązać z prawdziwymi sojusznikami III Rzeczypospolitej Ludowej: Kubą, Koreą Północną i ChRL.*
*Piotr Wierzbicki*
*(Gazeta Polska, nr 14)*

**„Gazetę Polską" — орган „сапраўдных патрыётаў" чытаецца з цікаўнасцю. Чытаем далей:**

*Panie Wałęsa! Ściągnąłeś Pan do Belwederu na swojego przybocznego niejakiego Wachowskiego, faceta o opinii sutenera; agenta z mordą nieogolonego wykidajły z podrzędnej knajpy i pozwoliłeś, aby taka postać rządząc panem, miała wpływ na Polskę... Oddałeś pan swój geniusz polityczny w służbę złu, kopiąc, krzywdząc i raniąc z Matką Boską w klapie, pławiłeś się pan we władzy jak jakiś sułtan... A teraz dałeś się pan wykiwać komunistom. Na pana miejscu strzeliłabym sobie w łeb.*
*Elżbieta Isakiewicz*
*(Gazeta Polska, nr 14)*

**Так найчасцей выглядае сямейная сварка. Адзін другога б'е чым папала і ў што папала.**

* * *

*Wódkę i zakąskę skradli nieznani sprawcy ze sklepu spożywczego przy ulicy Czeskiej w Białymstoku. Łup wyceniono na 14 mln. zł.*
*(Gazeta Współczesna, nr 207)*

**Някепска хлопцы выпілі і закусілі.**

* * *

*Politycy i autorytety moralne mówią często o zagrożeniach dla polskiej demokracji. Lecz, aby były zagrożenia, wcześniej musi być demokracja, a tej nie ma lub jest jedynie w jakiejś kuriozalnej, okrojonej postaci.*
*(Polityka, nr 43)*

* * *

*W naszym* **bezpiecznym kraju** *w 1993 r. średnio każdego dnia mordowane są 3 osoby, co 4,5 godziny policja otrzymuje wiadomość o gwałcie, co 66 minut dochodzi do bójki lub pobicia, co 32 minuty zdarza się rozbój lub wymuszenie, co 11 minut kradzież w obiektach publicznych, co pół minuty — włamanie do mieszkania.*
*(Polityka, nr 43)*

**І як тут жыць? А гавораць і пішуць, што будзе яшчэ горш!**

* * *

*Polacy są na pewno najbardziej zarozumiali i skłonni do generalnego lekceważenia wszystkich swoich partnerów. Jako członkowie narodu najliczniejszego i reprezentującego najbogatszą kulturę, uważają się za lepszych, lubią poddawać w wątpliwość fakt istnienia kultur litewskiej i białoruskiej. Białorusini poza własnym państwem uznawani są za Rosjan — „Rusków", co nosi konotację negatywną, bo kojarzącą się z narodem najeźdźców. Traktowani są więc na ogół niechętnie i lekceważąco, jako „wschodnie prymitywy" i potencjalni lub aktualni współpracownicy komunistów.*
*(Rzeczpospolita, nr 245)*

**На жаль, так больш-менш выглядае і паляк у вачах беларуса, так як беларус у вачах паляка. З такой толькі розніцай, што для паляка беларус — гэта дзікі варвар і камуніст, паляк для беларуса — гэта адурманены прымітыўным нацыяналізмам фундаменталіст. Пакуль што воблік суседніх народаў ствараюць толькі міфы і стэрэатыпы.**

* * *

*Najwięcej fabryczek bimbru na terenie woj. białostockiego wykryto w tym roku w Hajnówce. Drugie miejsce zajmują Kleszczele.*
*(Gazeta Współczesna, nr 204)*

**Вось доказ на тое, што беларусы толькі прыкідваюцца сацыялістамі, а кожны з усіх сіл стараецца быць фабрыкантам. Каб не перашкаджала паліцыя і яе „kapusie", кожны другі жыхар вёскі быў бы прыватным прадпрымальнікам.**

* * *

*Rosyjscy dowódcy sprzedali różnym ugrupowaniom walczącym na Kaukazie cztery razy więcej broni niż ma jej armia brytyjska.*
*(Gazeta Współczesna, nr 204).*

**Праз пару дзесяткаў гадоў каўказцы будуць займацца тым, што найлепш любяць. У кожнай грамадскасці сваё хобі. Адны працуюць, другія ваююць, трэція моляцца, іншыя гандлююць, наркатызуюцца і г.д.**

**У амерыканцаў напрыклад:**
*Jak radośnie donosi pewien polski dziennik, wśród amerykańskich uczniów wzrósł gwałtownie pęd do bycia homoseksualistą.*
*(Gazeta Polska, nr 14)*

## З мінулага тыдня

**Новым міністрам культуры і мастацтва стаў вядомы рэжысёр Казімеж Дэймэк.** Да часу прыняцца міністэрскай пасады быў ён дырэктарам Польскага тэатра ў Варшаве. Казімеж Дэймэк праславіўся як рэжысёр многіх нашумеўшых спектакляў, між іншым „Дзядоў" Адама Міцкевіча і „Лазні" Уладзіміра Маякоўскага. Раней працаваў ён дырэктарам нацыянальных тэатраў у Лодзі і Варшаве, быў рэжысёрам у тэатрах Атэнэум і Вялікім у Варшаве.

**На пасяджэнні кіраўніцтва Міністэрства культуры і мастацтва** (3 лістапада) міністр **Казімеж Дэймэк** зарэкамендаваў новага віцэ-міністра **Вацлава Янаса**. Замяніць ён **Рышарда Чарнецкага**, які выконваў гэтую функцыю з 17 чэрвеня г.г. Вацлаў Янас быў ужо раней віцэ-міністрам культуры і мастацтва (ад красавіка 1983 г. да студзеня 1990 г.). Міністр К. Дэймэк заявіў таксама, што нічога не чутна пра іншыя персанальныя змены ў кіраўніцтве ведамства.

**Міністр працы і сацыяльнай палітыкі Лешак Мілер** сустрэўся з **Янам Х'юмам** — дырэктам Місіі Сусветнага банка ў Польшчы. Дырэктар Х'юм запэўніў, што Сусветны банк будзе супрацоўнічаць з урадам РП пры канструяванні бюджэту ў такі спосаб, каб не зважаючы на яго мізэрнасць, заспакойваў ён грамадскія патрэбы, а дапамога траплялa да найбольш патрабуючых.

**Найважнейшай задачай Сеймавай Камісіі па справах кантактаў з палякамі ў замежжы** яе новы старшыня — **Лешак Мачульскі** — палічыў падрыхтоўку змяненняў у законе аб грамадзянстве. „Ідзе тут пра гэта, каб увесці ясныя і выразныя правілы, якія акрэслілі б, хто за мяжой захаваў польскае грамадзянства, і, магчыма, як яго можна пацвердзіць або вярнуць назад" — сказаў Мачульскі.

Рымскі папа **Ян Павел II** у інтэрв'ю для заходнееўрапейскага друку аднёсся, між іншым, да справы стасункаў паміж Каталіцкім касцёлам і Праваслаўнай царквою. Выказаўся ён за ўрэгуляванне спрэчных пытанняў, якія павінны быць вырашаны „ў духу экуменічнага дыялога". Папа звярнуў увагу на дзве справы: першая — пытанне стварэння епархій лацінскага абраду на тэрыторыі былога Савецкага Саюза, другая — сітуацыя Грэка-каталіцкага касцёла, які — паводле Ватыкана — быў асабліва праследаваны камуністычным рэжымам.

**У Варшаве адбыўся семінар на тэму свабоды сродкаў масавай інфармацыі.** Яго арганізатарам было Бюро дэмакратычных інстытутаў і правоў чалавека, якое дзейнічае пры СБСЕ (KBWE). Семінар пачаўся з пленарнага пасяджэння, на якім выступілі прадстаўнікі 53 краін-удзельніц СБСЕ. Найбольшую ўвагу прыцягвалі выступленні дэлегатаў краін Сярэдняй і Усходняй Еўропы, якіх у семінарыйных дакументах называюць „новымі дэмакратыямі"

**З 15 на 20 тысяч рублёў** павысілася ў лістападзе мінімальная заработная плата ў Беларусі. Гэта ўжо шостае ў бягучым годзе павышэнне. Першае было праведзена ў студзені, калі самую малую зарплату паднеслі з 1 на 3 тысячы рублёў. З пачаткам лістапада павінны былі падаражаць асноўныя харчовыя тавары, якія датуюцца дзяржавай, але ўлады адышлі ад гэтай задумы.

**У Беластоцкім ваяводстве легальна працуе 80 чужаземцаў** — столькі дазволаў на працу выдала Ваяводская ўправа працы. Сярод іх апынулася некалькі настаўнікаў, лекар, кухар і... група расейскіх і беларускіх спецыялістак па стрыптызу.

**Падчас I Сельскагаспадарча-прадуктовага кірмашу**, які нядаўна адбыўся ў Беластоку, цукровы завод у Лапах заключыў кантракт на пастаўку цукру вартасцю ў 35 млрд. зл. для беларускай фірмы з амерыканскім капіталам.

**Сілы бяспекі сталіцы Украіны Кіева** вядуць падрыхтоўку да 24 лістапада — у гэты дзень сектанты з **„Вялікага белага брацтва"** намерваюцца ўчыніць калектыўнае самагубства. Члены секты вераць, што ў гэты дзень у другі раз сыдзе на Зямлю Ісус Хрыстос і наступіць канец свету. На Украіне дзейнічае 30 цэнтраў секты з 2200 прыхільнікамі. Згуртаванні сектантаў знаходзяцца таксама ў Расеі, Малдове і Беларусі.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Былі ганчары на Беласточчыне.
- У школе ў Храбалах.
- Восеньскія рэфлексіі Дзядзькі Захара і Грышы Мароза.
- Паэзія Наталлі Арсенневай.

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### НАПЕРАДЗЕ ЕЎРОПЫ ЎСЁЙ?

22 лістапада ў Мадрыдзе адбудуцца ўрачыстасці з нагоды ўручэння Брэсцкаму лікёра-гарэлачнаму заводу "Заходні Буг" ганаровага дыплома "Залатая зорка". На конкурсе гарэлачных вырабаў прадукцыя берасцейцаў была прызнана адной з самых лепшых у Еўропе.

І яшчэ, нядаўна міжнароднае эканамічнае таварыства, штаб-кватэра якога знаходзіцца ў Капенгагене, прысудзіла тром беларускім прадпрыемствам -- "БелаўтаМАЗу" (які выпускае грузавыя аўтамабілі), "Гарызонту" (тэлевізары) і "Зеніту" (фотаапараты і аптычныя прылады) -- ганаровую ўзнагароду "Залаты глобус". Гэты прыз прысуджаецца прадпрыемствам, якія не дапусцілі падзення вытворчасці і скарачэння колькасці працоўных месцаў, нягледзячы на цяжкія эканамічныя ўмовы.

Адметна, што з усіх краін былога СССР толькі ў Беларусі -- тры лаўрэаты "Залатога глобуса", у астатніх рэспубліках, у тым ліку і ў Расеі -- па аднаму.

### ЦЕНЬ ЧАРНОБЫЛЯ

З вялікай трывогай успрынялі жыхары Беларусі, асабліва Гомельскай вобласці, рашэнне ўкраінскага ўрада зноў увесці ў эксплуатацыю нядаўна зачыненую Чарнобыльскую атамную электрастанцыю.

Партыя "зялёных" Беларусі звярнулася да прэзідэнта і да Вярхоўнага Савета Украіны з заклікам адмяніць рашэнне аб "размарожванні" блокаў Чарнобыльскай АЭС, каб у чарговы раз не сталі жыхары Беларусі і Украіны заложнікамі ядзернай пачвары. Як вядома, вынікі аварыі на ЧАЭС яшчэ даволі адчувальныя і зараз, праз сем гадоў пасля таго, як яна адбылася. Напрыклад, у Беларусі ўзровень захворванняў насельніцтва на рака шчытападобнай залозы павялічыўся за гэты тэрмін у 22 разы.

### БЕЛАРУСЬ, ПЭЎНА, ДЖОН ПАЛЮБІЎ

Першы амерыканскі фермер-добраахвотнік прыехаў у Беларусь, каб заняцца вырошчваннем рапсу на забруджаных Чарнобылем землях. Па міжнароднай праграме "Фермер -- фермеру" ў рэспубліку павінна прыбыць каля 20 заакіянскіх аграрнікаў. Чакаецца, што супрацоўніцтва спецыялістаў дзвюх краін будзе развівацца ў самых розных галінах народнай гаспадаркі. Ва ўсялякім выпадку, пяць беларускіх менеджэраў і навукоўцаў у хуткім часе прымуць удзел у праграме "Сабіт", якая прадугледжвае развіццё прыватнага бізнесу, а два саветнікі Інстытута грамадскага кіравання ЗША ўжо супрацоўнічаюць з Інстытутам дзяржаўнага будаўніцтва і заканадаўства па распрацоўцы новай канстытуцыі Беларусі.

### МЕСЦА СУСТРЭЧЫ -- ТЭХНАПАРК

Яшчэ адзін крок у развіцці малога бізнесу ў Беларусі зроблены ў Менску. Па прыкладу нямецкіх бізнесменаў беларускія стварылі ў сталіцы рэспублікі "Тэхнапарк" -- своеасаблівы саюз малых прадпрыемстваў, якія, захоўваючы юрыдычную самастойнасць, аб'ядноўваюцца пад адзіным "дахам", што дапамагае ім выжыць ва ўмовах рынку.

Заснавальнікамі "нованароджанай" структуры сталі 24 арганізацыі, у тым ліку Беларускі дзяржаўны універсітэт, Міністэрства адукацыі, Менскі гарадскі выканаўчы камітэт, навукова-даследчыя інстытуты, банкі і шэраг прадпрыемстваў.

### ДЗІЦЯЧЫЯ ГУЛЬНІ Ў ВЯЛІКУЮ ПАЛІТЫКУ?

У беларускага парламента, здаецца, паявіўся сур'ёзны палітычны сапернік -- першы ў рэспубліцы дзіцячы парламент. Ініцыятарам яго стварэння стаў Беларускі дзіцячы фонд.

Узрост парламентарыяў -- 10-17 гадоў. Аднак амаль усе яны ўжо змаглі праявіць сябе ці то ў спорце, ці ў вучобе, ці ў мастацтве, ці (і гэта прыкмета часу) у бізнесе.

Палітыка, пэўна, не лепшая гульня для дзяцей, але што зрабіць, калі дарослыя, занятыя палітычнымі баталіямі, цалкам забыліся на тое, што і ў маленькіх жыхароў рэспублікі могуць быць вялікія праблемы.

### І ЗНОЎ ДЗЯДЫ...

2 лістапада ў Беларусі адзначалі Дзень памяці продкаў -- Дзяды. Раніцай ва ўсіх храмах хрысціянскіх канфесій Менска адбыліся набажэнствы. Ля будынка КДБ была ўстаноўлена капліца Памяці, а на Усходніх могілках беларускай сталіцы адкрыты помнік прафесару Міхасю Ткачову. У Курапатах -- месцы пахавання шматлікіх ахвяр сталінскіх рэпрэсій -- адбыўся мітынг-рэквіем.

### ДАЙ БОЖА, КАБ ХАПІЛА НА ХЛЕБ І МАЛАКО

Апублікаваная ў друку інфармацыя аб павышэнні ў два разы цэнаў на малако і малочнакіслую прадукцыю, хлеб і хлебабулачныя вырабы пасадзейнічала рэзкаму павелічэнню чэргаў у харчовых крамах. І хоць, вядома, перад смерцю не надыхаешся, можна зразумець тых, для каго і зараз асноўныя прадукты харчавання -- хлеб і малако. І толькі ў перадапошні дзень кастрычніка дэпартамент цэнаў пры Дзяржэканомплане Беларусі даў раней прынятай пастанове адбой, падкрэсліўшы, праўда, што абвешчанага павышэння трэба чакаць з дня на дзень.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# ПАНАРАМА НАРАЎСКАЙ ГМІНЫ

## (4)

### Зялёныя ўгоддзі

Нараўская гміна ўваходзіць у лік тых гмінаў у Беластоцкім ваяводстве, якія маюць даволі многа выганаў і сенажацяў. Дакладна палову ўсіх сельскагаспадарчых угоддзяў. Размяшчэнне іх на тэрыторыі гміны нераўнамернае. Яны найчасцей прымеркаваны да басейнаў галоўных рэк: Нарвы — на поўначы і Нараўкі — на ўсходзе, а таксама меншых рэчак: Малынкі і Рудні. Большасць угоддзяў складаюць высокаўраджайныя залівыя сенажаці. Дзякуючы тоўстаму слою вільготных поймавых глебаў, такія сенажаці кожны год пакрываюцца буйным разнатраўем, якое дае больш сена ў першым укосе, чымсьці ў другім (асеннім) — прыблізна ў два разы. Яшчэ большыя ўраджаі прыносяць празмерна вільготныя лугі, пакрытыя асаковымі травамі, аднак якасць сена з такіх лугоў значна горшая.

Сенажаці займаюць таксама вялікую плошчу тарфянікоў, між іншым, у аб'екце названым „Багна Тынявічы". Усе астатнія сенажаці — гэта нетрывалыя зялёныя ўгоддзі. Плошча іх увесь час мяняецца. Да ліку такіх сенажацяў адносяцца невялікія плошчы між ворыўнымі землямі, агародамі ды лясамі. Яны часта становяцца выганамі, агародамі або палямі.

Выганы найчасцей займаюць больш сухія ўчасткі зялёных угоддзяў, тарфянікі, на якіх траву касіць цяжка, а ўраджай дрэнны, або больш падмоклыя ўчасткі ворыва. Апошнія выганы выступаюць найчасцей у Ласінцы і навакольных вёсках. Найбольшымі плошчамі выганаў валодаюць жыхары Трасцянкі і навакольных вёсак, а найменшымі — жыхары Васькоў і тамашняй акругі.

Зараз большыя масівы забалочаных выганаў меліяраваны. Рэгуляваны руслы некаторых рачулак, у большасці тых безыменных, але і такіх больш вядомых, як Крыўчанка, Велічкоўка, Руда, Альшанка і Заблочанка. Праведзена ачыстка старых меліярацыйных равоў. Працы па асушэнню забалочаных сенажацяў і выганаў праведзены на дзяржаўныя сродкі, між іншым, у вёсках Тынявічы Вялікія, Трасцянка, Храбустоўка, Макаўка. Значныя працы па асушэнню балот выканалі самі сяляне вёскі Адрынкі.

У Нараўскай гміне сустракаюцца выганы, якія патрабуюць дадатковых інвестыцый па навадненню. Да іх ліку, у першую чаргу, неабходна залічыць адрэзак даліны ракі Нарвы, між вёскамі Цімохі і Анцуты. Навадненне можна было б правесці шляхам павышэння ўзроўню вады ў руслах рэк шляхам пабудовы некалькіх невысокіх плацін. Такія плаціны, званыя тут „язамі", існавалі да першай сусветнай вайны, а потым былі знішчаны.

Лепшае загаспадаранне зялёных угоддзяў і звязанае з гэтым павелічэнне плёну сена аказала станоўчае ўздзеянне на развіццё жывёлагадоўлі.

### Жывёлагадоўля

Жывёлагадоўля цесна звязана з наяўнасцю зялёных угоддзяў і раслінаводствам. Травадная жывёла знаходзіць тут корм на натуральных выганах на працягу амаль цэлага сезона выпасаў, а сенажаці даюць 2/3 усіх кармоў, загатоўленых на зіму. Астатнюю частку кармоў складаюць зборы карматраў (канюшына, сырадэля, віка), зернавых і прапашных культур. Толькі некаторыя вёскі Ласінкаўскай акругі адчуваюць недахоп зялёных угоддзяў і таму большую ўвагу ўдзяляюць павелічэнню збораў фуражных кармоў.

Жывёлагадоўчыя традыцыі насельніцтва стварылі магчымасць развіцця ўсіх відаў жывёлагадоўлі. Зараз у Нараўскай гміне ў прыватных гаспадарках гадуюць 5000 буйнай рагатай жывёлы (у тым ліку 2700 малочных кароў), 4500 свіней і 4000 авечак. Сельскагаспадарчыя прадукцыйныя спулдзельні (калгасы) маюць, між іншым, каля 300 буйнай рагатай жывёлы, 3600 авечак, больш 4500 свіней, 30 тысяч курэй-нясушак і 10 тысяч гусей.

Буйная рагатая жывёла размяшчаецца на тэрыторыі гміны нераўнамерна. Найбольшую яе колькасць гадуюць у Ванеўскай і Ласінкаўскай акругах. З агульнай колькасці буйнай рагатай жывёлы малочныя каровы складаюць у сярэднім каля 70% пагалоўя, астатнюю частку — маладняк. Кароў гадуюць таксама жыхары не звязаныя з сельскагаспадарчай прадукцыяй. Вядома, больш гэтай жывёлы гадуюць у вёсках, якія знаходзяцца у далінах рэк Нарва і Нараўка, а таксама меншых рачулак: Крыўчанкі, Альшанкі, Руды, Заблочанкі ды ручая Ванеўка.

Свінагадоўля ў Нараўскай гміне наладжана добра. Улетку свіні ўтрымоўваюцца, між іншым, „зеллем з ворыва" або кармавымі травамі, а зімою — бульбай з мякінай, адпадкамі ежы і часткова камбікармамі. На тэрыторыі гміны пагалоўе свінней размешчана нераўнамерна. Добра развіта яно ў Ванеўскай і Ласінкаўскай акругах. Сотні штук свіней гадуюць беззямельныя жыхары (рабочыя, рамеснікі і г.д.), між іншым, у Нарве.

Авечкагадоўля развіта даволі добра. Дамінуючай пародай з'яўляецца „вжасоўка", радзей сустракаецца доўгагаловая польская белая і дзе-нідзе мерыносы. У 1952-1954 гадах з мэтай паляпшэння пароднасці было прывезена з СССР каля сотні племянных авечак раманаўскай пароды, акліматызацыя якіх прынесла нядрэнныя вынікі. Усё ж такі, „вжасоўка" не дае белай вoўны, але яе скура цэніцца ў гарбарных промыслах як тонкая і моцная. Яна таксама найлепш прыстасаваная да мясцовых умоў.

Нядрэнна развіта птушкагадоўля. Найшырэйшае распаўсюджанне атрымалі куры і гусі. У вёсках распаложаных над ракою Нарвай ды рачулкамі Крыўчанкай, Рудаю і Альшанкай (Анцуты, Даратынка, Нарва, Рыбакі, Гаранды, Адрынкі, Рагазы) разводзяцца вадаплаўныя птушкі, асабліва гусі. Аднак гэтая птушкагадоўля значнага эканамічнага значэння ў гаспадарках сялян не мае.

### Больш лепшых дарог

Улады Нараўскай гміны не забываюць пра рамонт і пабудову дарог. У мінулым годзе паклалі асфальт, між іншым, на вуліцах у Трасцянцы і ў Макаўцы, а таксама адрамантавалі амаль дваццаць кіламетраў гравеек!

Сёлета высфальтавалі некаторыя вуліцы ў самой Нарве, між іншым да тамяшняга Гміннага асяродка здароўя ды ў вёсках Даратынка і Радзькі. З гэтай мэтай самі жыхары згаданых двух апошніх вёсак аблажыліся падаткам.

1300-метровы адрэзак гравейкі пабудавалі з Бялкоў у Каўпакі. Такі сам адрэзак здалі ў карыстанне на шляху з Пухлаў у Цялушкі. Яшчэ ў гэты годзе будзе адрамантавана дарога цераз лес з вёскі Цімохі да асфальтавай шашы з Рыбакоў у Макаўку, а далей — у Гайнаўку і Беласток.

У будучым годзе будзе закончана пабудова 3,5-кіламетровага адрэзка дарогі з Пухлаў у Сацы.

*(Працяг будзе)*

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

# ПАТРЭБА — МАТКАЙ ЗГОДЫ

Прыемна паслухаць і паглядзець людзей розных веравызнанняў, якія згодна жывуць з сабою. Прыкладам можа быць вёска Пасынкі ў Заблудаўскай гміне. Няма там цяпер дакораў, што адзін такі, а другі сякі. Здараецца часам, што нехта ў злосці скажа непрыемнае слова, але гэтага ніхто не бярэ ўсур'ёз. Калі хто-небудзь памрэ, то на пахаванне ў царкву ці касцёл ідуць амаль з кожнай хаты; не ідуць толькі тыя, якія не могуць. Кожны моліцца так, як хоча, і ніхто звонку не звяртае на гэта ўвагі. Трэба аднак сказаць, што зараз пасля вайны ў Пасынках, так як і ў іншых мешаных вёсках было па-рознаму, здаралася, што і даволі цяжка, асабліва праваслаўным. Цяпер на вёсках падзелы на праваслаўных і католікаў знікаюць. На вёсцы асталіся толькі старыя людзі, якія часта патрабуюць дапамогі свайго суседа. Веравызнанне тут ні пры чым: сусед заўсёды дапаможа ў бядзе. Сяляне маюць і дзяцей, але тыя жывуць далёка ў гарадах і бацькоў наведваюць толькі тады, калі тыя заколюць вепрука або выкапаюць бульбу; пра гэта дзеці добра памятаюць! У сваю чаргу і моладзь разам гуляе, разам вучыцца ў школах і многія з іх заводзяць мешаныя сем'і; некаторым гэта нават па душы, бо могуць два разы святкаваць, раз — свята каталіцкае, другі раз — праваслаўнае. Гэта добра, што падзелы паміж людзьмі знікаюць — так быць павінна; людзі павінны жыць як браты, бо ўсе нарадзіліся на гэтай зямельцы, на якой знаходзяцца магілы іхніх продкаў. Трэба таксама шанаваць атрыманую ад бацькоў духовую спадчыну, мову і фальклор, каб перадаць іх нашым дзецям: няхай нашы песні разліваюцца па вёсках, як за нашых маладых гадоў!

**МІКАЛАЙ ПУЧКО**

# ГАЙНАЎКА МАЕ НОВУЮ ГАЗЕТУ

Яшчэ ў пачатку г. г. у Гайнаўцы выходзіла самаўрадавая газета — „Gościniec Hajnowski". Потым яе і след прапаў. Беластоцкая прэса неўзабаве абвясціла смерць „самаўрадаўкі".

Ĭ, вось, у палове кастрычніка г. г. паявіўся сігнальны нумар новай гарадской газеты. Называецца яна „Gościniec", а выдаецца Тэрэсай Валкавыцкай, якая раней вяла прыватнае турыстычнае бюро ў Белавежы, а са жніўня г. г. адкрыла паслуговую кампанію ў Гайнаўцы.

Новае выданне намерваецца стаць „pismem społeczno-kulturalnym miasta i okolic Hajnówki". Разлічвае яно на шырокае супрацоўніцтва жыхароў горада і навакольных вёсак. Газета будзе мець спецыяльную ўкладку, рэдагаваную ва Управе горада; яе мэта — інфармаваць аб працы Рады і Управы горада.

Нулявы нумар „Gościńca" змяшчае, між іншым, выказванні прадстаўнікоў улад горада наконт неабходнасці выдавання гарадской газеты, кароткія інфармацыі з жыцця мясцовасці, артыкул аб пакражах іконаў на Гайнаўшчыне, інтэрв'ю з ніжэйпадпісаным як супрацоўнікам прэсы. Ёсць у ім і маладзёжная старонка, куточак касметычных парадаў, друкуецца таксама літаратурны твор Т. Валкавыцкай. У нумары шмат рэклам.

Галоўным рэдактарам газеты з'яўляецца вучань аднаго з гайнаўскіх агульнаадукацыйных ліцэяў, Радаслаў Раманюк. Адрас рэдакцыі: 17-200 Hajnówka, ul. Buczka 2, tel. 23-92.

Першы нумар „Gościńca" выйдзе ў лістападзе г.г.

**ПЁТР БАЙКО**

# ПРАЦЯГ СЕСІІ Ў БЕЛЬСКУ

25 кастрычніка г.г. у Бельску-Падляшскім адбылася другая частка XXXV сесіі Гарадской рады. Дэбаты былі працягам пасяджэння з мінулага тыдня, калі многія радныя адчулі сябе зняважанымі выступленнем Яна Радкевіча і пакінулі залу. У пошуках сенсацыі на сесію прыехала шмат журналістаў. Сесія адбылася згодна з прадбачаным парадкам.

Амаль гадзіну радныя гаварылі аб зменах у гарадскім бюджэце за першую палову 1993 года. Большасцю галасоў радныя прынялі пастанову, што дадатковыя грошы будуць выкарыстаны на пабудову Раённай паліклінікі, на абнаўленне помніка-маўзалея і парадкаванне вайсковых могілак.

Гаварылася таксама аб праблемах ацяплення горада і аб мясцовай камунікацыі.

— Нашы вуліцы не прыстасаваныя да такой колькасці аўтобусаў, сем стаіць нявыкарыстаных, — сказаў бурмістр Казімеж Ляшчынскі.

— Наш рухомы састаў транспарту сыплецца. Калі не будзем думаць пра кансервацыю, у хуткім часе прыйдзецца хадзіць пяшком, — палемізаваў радны Сцяпан Мікалаюк.

Некалькі хвілін радныя адвялі справам каналізацыі і водаправодам. Бельск — гэта горад, дзе на 36 вуліцах няма вады.

Дыскусія ажывілася, калі гутарка пайшла пра антыалкагольную гарадскую праграму. Мела быць 11 пунктаў продажу алкагольных напіткаў (звыш 4,5% алкаголю). Адны хацелі гэтую колькасць пабольшыць, іншыя — паменшыць. Радныя з камісій культуры і здароўя перагаласавалі, што праблему гэтую будуць вырашаць у будучыні.

З ініцыятывай заснавання гмінна-гарадскога фонду на карысць мясцовага развіцця выступіў войт Бельскай гміны Юры Ігнацюк. Сусветны банк прызначыў на гэтую мэту 100 тысяч долараў. Ад улад горада патрэбна яшчэ 1,5 млд. зл. Не ўсе радныя прызналі гэтую ініцыятыву мэтазгоднай. Гэтую справу таксама адтэрмінавалі.

У перапынках журналісты „лавілі сенсацыю" з мінулага тыдня. Найбольшай папулярнасцю карыстаўся былы віцэ-старшыня рады Ян Радкевіч. Выказваўся ён надзвычай дыпламатычна і стрымана. Радныя, якія тады пакінулі пасяджэнне, далучылі дадатак да пратакола, у якім напісалі: „Звяртаемся да Старшыні ГР з патрабаваннем арганізаваць працяг сесіі ГР, згодна з прынцыпамі Статута горада і Рэгламентам пасяджэнняў ГР у Бельску-Падляшскім. Спадзяемся перш за ўсё стабілізіруючага ўздзеяння на атмасферу ў час пасяджэнняў і агульнай пашаны для правa і маральных норм. Нягледзячы на тое, ўсіх радных абавязвае стрыманасць у выказванні таго, што можа дзяліць і антаганізаваць, бо галоўнай мэтай нашай грамадскай працы з'яўляецца дабро жыхароў горада". Гэты дадатак падпісалі дванаццаць радных.

**ГАННА КАНДРАЦЮК**

# АКТЫЎНЫЯ ЖАНЧЫНЫ

У Беластоцкім ваяводстве дзейнічае каля 900 гурткоў вясковых гаспадыняў (KGW), якія аб'ядноўваюць 20 тысяч членаў. Жанчыны выконваюць шматлікія важныя і адказныя грамадскія функцыі. У вясковых самаўрадах працуюць яны грамадскімі апякункамі, раднымі, солтысамі, войтамі.

У беластоцкіх вёсках існуе 250 пазычальняў механізаванага кухоннага хатняга абсталявання, семдзесят мастацкіх калектываў. Гурткі арганізоўваюць курсы рацыянальнага харчавання, развозяць курант для далейшай гадоўлі, вядуць вясковыя „дзяцінцы" ў летні перыяд — асабліва ў жніўную пару або восенню, у час капання бульбы.

Актыўныя жаночыя арганізацыі працуюць у Райску і ў Аўгустове (Бельская гміна), у Фальварках (Заблудаўская гміна), у Агародніках (Сямяцічская гміна).

**(ЯЦ)**

### Мастакам-аматарам!

Ваяводскі цэнтр анімацыі культуры ў Беластоку арганізуе агляд аматарскай мастацкай творчасці.

Дакладную інфармацыю пра агляд можна атрымаць:

— у Беластоку, вул. Кілінскага 8, тэл. 328-652

— у Бельску-Падляшскім, вул. 3 Мая 3, тэл. 34-14

— у Гайнаўцы, вул. Беластоцкая 2, тэл. 20-89

— у Саколцы, вул. Гродзенская 1, тэл. 11-24-35.

# ВЫБАРЧЫЯ РЭФЛЕКСІІ

Выбары ў Сейм 1991 г. прынеслі перамогу Яўгену Чыквіну з Праваслаўнага выбарчага камітэта. У тадышніх выбарах сваіх кандыдатаў на паслоў вылучылі беларускія і ўкраінскія нацыянальныя меншасці. Наколькі мог я зразумець і выясніць паражэнне ў выбарах украінцаў, рассеяных амаль па ўсёй краіне, настолькі не мог зразумець паражэння беларусаў. Тым больш было гэта непрыемным, што нямецкая меншасць у гэтых выбарах увяла ў парламент восем сваіх паслоў.

Надышлі выбары 1993 года. Нацыянальныя меншасці Беласточчыны аб'ядналі свае сілы (апрача бельскіх украінцаў). Можна было спадзявацца, што ў Сейм і Сенат трапіць хаця адзін прадстаўнік. Я не сумняваўся, што так будзе, бо, як вядома, прапаганда вялася на фэстынах, былі расклеены плакаты. Неяк выпадкова сустрэўся я з кандыдатам у Сенат Яўгенам Чыквінам і запрапанаваў яму свой удзел у акцыі прапагандавання яго асобы. Нейкім сігналам, што не пойдзе ўсё так, як я спадзяваўся было бліжэйшае асяроддзе. Усе хацелі галасаваць на „лявіцу" або Цімашэвіча, а нават на партыю „Х". „Беларусы — што яны могуць?" — часта чуліся адказы. Я спадзяваўся, што многае зробіць Праваслаўная царква, заахвочваючы праваслаўных галасаваць на праваслаўнага, так як рабілі гэта каталікі. Але прыйшло глыбокае расчараванне. Мо замала было прапаганды, а можа была яна неэфектыўнай. Рэзультат выбараў усім вядомы. Прайгралі мы, праваслаўныя беларусы, прайгралі так, што чатыры гады не будзе нашых прадстаўнікоў у парламенце.

Разважаючы склаўшуюся сітуацыю, трэба нам задумацца і зрабіць вывады на будучыню, што рабіць, каб усе беларусы галасавалі на беларусаў, праваслаўныя на праваслаўных і каб была большая прысутнасць нашага грамадства ў галасаванні. Я прыняў аптымальныя ўмовы, у якіх удалося б нам праўдападобна ўвесці двух паслоў у Сейм і аднаго ў Сенат. Было б гэта прадстаўніцтва на меру нашых патрэб, хаця і так мы не зраўняліся б з нямецкай меншасцю, якая мае 4 паслоў у Сейме. Аднак немцы ў першую чаргу паставілі на сваю нацыянальнасць, а толькі потым на „левых" ці „правых". Неабходна задумацца над тым, што страцілі б тыя, на якіх галасавалі беларусы: Саюз левых дэмакратаў меў бы менш усяго толькі аднаго пасла і сенатара. Аднаго пасла менш увялі б Унія працы і іншыя партыі. Ці гэта грунтоўна змяніла б склад парламента? Напэўна, не. Ці не варта было б сімпатыкам СЛД ахвяраваць свае галасы Беларускаму выбарчаму камітэту? Нягледзячы на тое, што хтосьці ачараваны Цімашэвічам, што камуна дала нам усё (дабрабыт, адукацыю, тані крэдыт), кожны з нас з'ўляецца перад усім беларусам ці праваслаўным.

Рэчаіснасць ёсць такая, што мы прайгралі; пашыраецца разлад. Беларусы слабыя сярод іншых нацыянальнасцей Рэчыпаспалітай. Не зважаючы на змены ва ўсім грамадстве, змены на Беласточчыне прыходзяцца вельмі павольна. Паўстала незалежная краіна — Рэспубліка Беларусь. Чатыры гады ў Польшчы развіваецца дэмакратыя, многа ўвагі прысвячаецца ўсталяванню спрыяльных адносін з меншасцямі. У нашым асяроддзі паўстаюць усё новыя арганізацыі, якія павінны аб'ядноўваць беларусаў. Па радыё ідуць перадачы для нацыянальных меншасцей, узнікаюць новыя газеты. На жаль, насуперак усяму занадта павольна мяняецца свядомасць беларусаў. Вёска, у якой мацней чым у горадзе трымаецца яшчэ традыцыя, старэе, пусцее. Сярод гарадскіх жыхароў беларускага паходжання шырыцца паланізацыя, або, лепш сказаць, уніфікацыя. Калі большасць беларусаў прымае культуру большасці грамадства, трактуючы сваю ўласную як нейкую экзотыку або як успамін з дзяцінства, нельга здзіўляцца, што ў час выбараў не наступае ідэнтыфікацыя выбаршчыкаў са сваёй нацыянальнай або рэлігійнай групай. Беларуская грамадскасць Беласточчыны галасавала так, як большасць польскага грамадства, значыць, на ўсе выбарчыя камітэты. Беларускі выбарчы камітэт быў адным з многіх, але не адзіным. Не быў ён дастаткова добра зарэкамендаваны. Не быў прадстаўлены ў І праграме Польскага тэлебачання, а таксама не чуў я пра яго па Беластоцкаму радыё, хаця па меры магчымасці сачыў за выбарчай кампаніяй.

Думаю, што будучыня прынясе лепшыя ўмовы беларусам, якія жывуць на Беласточчыне. Знайшліся мы ў так званым „нізе" і тое, як хутка мы з яго выйдзем залежыць толькі ад нас, ад таго, як хутка зменіцца наша нацыянальная свядомасць. Бярэмце справы ў свае рукі, як гаворыць прэзідэнт Рэчыпаспалітай. Неабходная ў гэтым праца палітыкаў, бізнесменаў, настаўнікаў, людзей культуры, святароў, каб паскорыць працэс нацыянальнага станаўлення беларусаў. Цэнтральнае месца ў гэтым працэсе трэба вызначыць моладзі, бо моладзь можа змяніць старыя прывычкі і погляды на гэтым сметніку гісторыі. На ўсё трэба часу, каб многія не былі лішне ўдзячны за ўсё „лявіцы". Але гэта ўжо іншая тэма.

**СЛАВАМІР КУЛІК**

*Пераклала Галіна Трашчотка*

# ЯШЧЭ ПРА ВЫБАРЫ

Праўду піша С. Іванюк („Czasopis", nr 10/34), што выбар таго ці іншага пасла — гэта выбар той ці іншай палітычнай арыентацыі, а не стаўленне да беларускага кандыдата. „Што можа мне, канкрэтна, даць Антон Мірановіч, невядомы выбаршчыкам гісторык?" — кажа саракагадовы селянін з Махнатага. — Беларусы паставаралі суполкі, і замест каб неяк аблегчыць гаспадаранне на зямлі, толькі самі багацеюць. Што іншае Цімашэвіч, ён можа мець уплыў на палітыку, а беларус, каб нават і быў выбраны ў Сейм якімсьці там спосабам, то ніякага ўплыву на дзяржаўную палітыку мець не будзе".

Маем затым вытлумачэнне пройгрышу Беларускага выбарчага камітэта. Палітык, які хоча быць выбраны беларусамі, мусіць штодзень быць пры іх, клапаціцца пра іх справы, турбавацца станоўча і пастаянна, шчыра і ўважна ўслухоўвацца ў іх галасы. Фэстыны, святкаванні і фестывалі — гэта не спосаб, каб прыцягнуць людзей да сябе. Святкаваць можна, але пасля цяжкай і плённай працы.

Кандыдаты ад Выбарчага камітэта Беларускага саюза — гэта або працаўнікі культуры і навукі, або бізнесмены. Многа зрабілі для беларускай культуры Сяргей Лукашук (847 галасоў), Мікалай Бушко (1096 галасоў), шмат — Антон Мірановіч (5679 галасоў) для гісторыі Праваслаўнай царквы. Але што гэтыя ці іншыя кандыдаты зрабілі для жыхароў Беластока, Гайнаўкі, Бельска ці сялян Гайнаўшчыны? Якія прынялі яны меры, каб без праблемаў мой субяседнік мог прадаць 20 тон бульбы ці здаць дзесяць свіней ў бойню, купіць мінеральныя ўгнаенні за такія грошы, каб гаспадарыць аплачвалася? З гандлю з Беларуссю карысць маюць „Амега" з Бельска і „Пронар" з Нарвы. А што мае з гэтага беларус з Беласточчыны?

З таго факту, што існуюць беларускія арганізацыі палітычную карысць павінны мець жыхары беларускіх вёсак і мястэчак Гайнаўшчыны або Бельшчыны, а не толькі беларускія бізнесмены, аб якіх так многа і доўга пісаў А. Барскі. Што яны карысць маюць — гэта вядома, але ніхто ніколі іх не будзе пхаць у Сейм, каб мелі яшчэ большую карысць. У рынчнай гаспадарцы, у дэмакратыі карысць мусіць быць узаемная.

Існуе ў асяроддзі беларускай інтэлігенцыі Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне — партыя, якая паставіла перад сабой такія мэты, што аж невядома якія. Невядомыя яны шырэйшаму грамадству. Адзін ці два дзеячы не ствараць палітыкі. Да маіх канкрэтных прапаноў стварыць матэрыяльную базу для палітычнага і культурнага руху на Беласточчыне дзеячы аднесліся зусім абыякава, быццам не разумелі аб чым я гавару. Распрацаваны мною праект дзецдцы прапаў. А было на чым гаспадарыць; у кожнай гміне былі аддзелы БГКТ з памяшканнямі і тэлефонамі, але цяпер усё гэта дзесьці знікла. Хтосьці скарыстаў, а арганізацыі далей жабруюць, кланяюцца і просяць ва ўлад міласціну.

Беластоцкі раён павінен карыстацца гандлем з Беларуссю. Гэта вельмі вялікая крыніца дабрабыту. Зараз карыстаюцца гэтым паасобныя прадпрымальнікі, а не грамадства. Да гэтай справы трэба пераканаць ваяводскія ўлады, трэба пры гэтым ведаць як гэта зрабіць, але так, каб развіваліся не толькі адна ці дзве фірмы.

Добрай ідэяй быў Саюз гмін. Думаю, што ідэя не састарэла, трэба яе аднавіць. Набліжаюцца муніцыпальныя выбары, ужо цяпер трэба рыхтавацца да іх, весці палітычную працу.

Адным словам, калі падыход кандыдатаў на паслоў, і не толькі іх, але і іх арганізацый да праблем грамадства будзе шчыры, сур'ёзны і адчувальны, у Сейме будзем мець не аднаго пасла, а цэлы Беларускі клуб і нават Пятро Прышчэпка збярэ больш галасоў, чым два гады таму ў Гданьску.

**МІХАСЬ КУПТЭЛЬ**

# КАМУ ПАТРЭБНЫ КАНФЛІКТ?

Два тыдні таму мы надрукавалі выказванні беластоцкіх каталіцкіх іерархаў, у якіх заяўляюць яны, што ў праваслаўных цэрквах Беласточчыны ствараецца беларуская дзяржаўнасць. Хаця цікава было б пабачыць праваслаўнага святара, які да беларускіх вернікаў загаварыў бы ў царкве па-беларуску, але трэба быць рэалістам — гэта толькі мары беларускай інтэлігенцыі. У царкве з „общепонятного языка" пераходзяць на „ogólnie zrozumiały język". Хаця падчас кожнай літургіі духоўнікі моляцца за польскую дзяржаву, яе „власти и воинство", іх каталіцкія калегі ўсё-такі закідаюць ім тварэнне беларускай дзяржаўнасці. Можна ўявіць сабе, як адчуваюць сябе ў такой сітуацыі „праваслаўныя палякі", калі іх польскасці ніхто не хоча нават заўважыць. Яны не хочуць мець нічога супольнага з беларускасцю, а тут маеш табе — у вачах палякаў бачацца яны як маналітная беларуска-„кацапская" маса. Нічога не вартым аказаўся іхні неафіцкі патрыятызм. Без змены веравызнання ніхто і ніколі не будзе лічыць іх палякамі!

Епіскап Азароўскі ў тым жа інтэрв'ю спасылаецца на словы праваслаўнага архіепіскапа Савы і заяўляе, што на Беласточчыне ўкраінская нацыянальнасць ёсць добра і выразна акрэслена, а беларуская — толькі што ствараецца з 1989 года. Епіскап Азароўскі добра ведае, якая праўда, але ён — знакаміты палітык. А для палітыка — як ужо кожны мог пераканацца — маральнасць і праўда гэта зусім малаважныя фактары. Істотныя — мэты.

Але чаму, менавіта, такія мэты ў гэтых палітыкаў? Якая карысць у антыбеларускіх дзеяннях? Можна паўтарыць чорны сцэнарый 30-х гадоў. Але хто на гэтым скарыстае?

21 кастрычніка ў „Gazecie Polskiej" — органе сіл правага накірунку, нейкі Кшыштоф Гурскі піша пра вядомую ўсім праблему — вяртанне Супрасльскага манастыра Праваслаўнай царкве. Крыніцай праўды для журналіста „Gazety Polskiej" з'ўляецца супрасльскае выданне — прапагандыст люмпенскай палітычнай думкі — „Nazukos". Гістарычныя разважанні аўтара лепш тут прамаўчаць, бо нават сталінская эпоха не ведала такой дэмагогіі. Гурскі прыводзіць як доказ страцяў беластоцкіх палякаў і католікаў словы нейкай пані Казбярук з Міхалова. Расказвае яна, як праваслаўны жыхар мястэчка ехаў на поле з гноем у час, калі ішла каталіцкая працэсія з іконай Божай Маці. Хаця і натрапалі тады католікі гэтага „кацапа" так, што той апынуўся ў шпіталі, але ўсё-такі міхалоўская неафітка адчувае сябе пакрыўджанай.

Найбольшыя правы на Супрасльскі манастыр, паводле „Gazety Polskiej", маюць Айцы Базільяны — украінскі каталіцкі ордэн, які цяпер знаходзіцца ў Варшаве.

І наканец Кшыштоф Гурскі аддае голас вялікаму „сябру" беларусаў — архіепіскапу Шымэцкаму. Варта пазнаёміцца з ягонымі думкамі. „Arcybiskup Stanisław Szymecki, metropolita Białostocki, zauważa niechęć ze strony prawosławnych. Szczególnie na terenie białostocczyzny (згодна з арыгіналам — рэд.) występuje niechęć wobec katolików. Białorusini na te ziemie patrzą jak na swoją własność, którą należałoby przyłączyć do Białorusi. Dlatego też sprawa Supraśla to nie jest tylko sprawa międzywyznaniowa — to jest sprawa nade wszystko polityczna. Kościół prawosławny należy bowiem do jurysdykcji Moskwy i zawsze był narzędziem Moskwy tu na tych ziemiach. *(Jego Eminencja udaje, że nigdy nie słyszał o autokefalii Polskiego Kościoła Prawosławnego? — **Я. М.**)*. Pomijając decyzję o przekazaniu klasztoru prawosławnym, pan minister wyrządza krzywdę nie tylko kościołowi, ale i polskości na ziemi białostockiej. Supraśl będzie chyba centrum szerzenia kultury białoruskiej, a kto wie czy nie rusyfikacji".

У Супраслі 20% грамадства — гэта праваслаўныя, спаланізаваныя беларусы, якія гавораць выключна на польскай мове і ў большасці называюць сябе „праваслаўнымі палякамі".

На Беларусі ў 1992 годзе было аддадзена ва ўладанне католікаў каля 200 касцёлаў. Дзесяткі ксяндзоў з Польшчы паехала туды весці — афіцыйна — рэлігійную дзейнасць.

**Я. МІРАНОВІЧ**

## БЕЛАРУСКІЯ ШКОЛЫ Ў ВІЛЬНІ

У 41 нумары "Нівы" прачытаў я цікавы змястоўны артыкул Янкі Максімюка "Беларускія школы ў Вільні". Сёлета быў я ў Менску на курсах для настаўнікаў беларускай мовы. Сустрэў я там і Лілею Плыгаўку, загадчыцу беларускага аддзялення Віленскага ўніверсітэта, і Алену Базюк з Вільні, настаўніцу беларускай мовы. Пра Лілею Плыгаўку піша аўтар згаданага артыкула. Ад сябе дадам, што гэта энергічная, сімпатычная, добразычлівая, гаваркая жанчына. У суразмоўцаў выклікае яна самае лепшае ўражанне. А як жа ўмее распачаць гутарку і цудоўна слухаць субяседніка! Падчас пабыўкі ў Менску -- ад 1 да 15 жніўня бягучага года -- яна колькі разоў наведалася ў Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Як аказваецца, нездарма: "Выхадзіла", між іншым, камп'ютэр.

У верасні выслаў я пісьмо і "Ніву" са сваім артыкулам "Нашы настаўнікі ў Менску" Алене Базюк у Вільню. Вось што яна адпісала мне: "Я зараз працую ў беларускай школе ў Вільні. Школа наша займаецца пры расейскай, 17-ай. Пакуль што не маем свайго ўласнага памяшкання. Але ёсць надзея, што праз год будзе. Выкладаю я ў 5-8 класах. Зрэдку замяняю ў 10-м. Ёсць адрозненне паміж дзяцьмі нашай школы і расейскай. Адрозненне ў імкненні вучыцца. Мой клас 5 і 6. Гэта значыць я з'яўляюся ў іх класным кіраўніком або інакш апекуном.(...) Калі будзеце пісаць, то адрасуйце на мой адрас у Беларусі. У Літву пісьмы ідуць доўга. Беларуская мова *наогул тут не бытуе* (вылучэнне Я. Ц.).

Думаю, што спадарыня А. Базюк не пагневаецца на мяне за працытаванне радкоў з яе пісьма. Але так найлепш адчуе чытач "Нівы", як яно ёсць з беларускімі школамі ў Вільні. Словы з пісьма, мабыць, будуць жывымі і адначасова дакументальнымі. А можа сп. Алена Базюк напіша ў "Ніву" артыкул пра свае радасці і клопаты?

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

## УРОК У БЕЛЬСКАЙ „ТРОЙЦЫ"

У бельскай Пачатковай школе н-р 3 беларускай мове вучыцца 934 дзетак. Працуе там чатыры беларусісты. 17 кастрычніка я мела гонар пабываць на ўроку беларускай мовы ў 8 класе, які вяла настаўніца Валянціна Бабулевіч. Тэмай урока было апісанне вёскі, у якой у час летніх канікул пабывала моладзь. Амаль усе з іх некалькі тыдняў гасцявалі ў бабуляў. Цікава было паслухаць, як гарадская моладзь бачыць беларускую вёску. Паўтараліся наступныя фразы: „вёска недалёка лесу", „драўляныя будынкі", „вузкая вуліца", „старадаўнія аб'екты". У хаце трэба ім будзе напісаць некалькі сказаў на гэтую тэму.

— У нас бабулі ў адной вёсцы. Ці можна пісаць разам з сяброўкай? — пацікавіліся дзяўчаты.

— Калі ласка, толькі папрацуйце старанна, — сказала настаўніца.

Вучні таксама працавалі з „Нівай". У хаце трэба было прачытаць артыкул М. Гайдука „Справядлівасць перамагла". На аснове тэксту васьмікласнікі напісалі некалькі сказаў аб гісторыі Супрасльскага манастыра.

Вучні чыталі прыгожа, хаця здараліся праблемы з націскам.

— Такія памылкі бяруцца з таго, што многія вучні гавораць выключна на польскай мове, — паясніла настаўніца.

Карыстаючыся „Нівай" дзеці вывучылі на памяць верш Наталлі Арсенневай „Восень". Некалькі дзяўчат атрымалі пяцёркі. Настаўніца прадыктавала інфармацыю пра паэтэсу.

— Няма падручнікаў, вельмі цяжка працаваць у такіх абставінах. Мушу сама змагацца за папулярызацыю прадмета, — кажа настаўніца Валянціна Бабулевіч.

Трэба дадаць, што мая прысутнасць навяла ў класе незвычайную атмасферу. Асабліва хлопцы шапталіся і кідалі каментары. Выразна хацелі зазначыць, што чытаюць парады „Сэрцайка".

**ГАННА КАНДРАЦЮК**

## УСЁ МЕНШ ВУЧНЯЎ

Хаця Дубічы-Царкоўныя — гэта гмінная мясцовасць, аднак у тамашняй школе вучняў нямнога. У гэтым навучальным годзе вучыцца ўсяго 76 дзяцей. У школу ходзяць вучні з Тафілаўцаў і Руткі. З вёсак Круглае, Вілюкі, Старына, Гурны Груд, Война́ўка, Вярсток, Чэхі-Арлянскія вучняў возяць на аўтобусе, які належыць гміне, а з Істока вучні дабіраюцца ў школу на веласіпедах або даязджаюць міжгароднім аўтобусам.

З 1 верасня дырэктарам школы стала Ніна Добаш-Карпюк, якая раней працавала ў школе ў Орлі. У Дубіцкай школе — 11 настаўнікаў. Закону Божаму вучыць айцец Віталій Гаўрылюк. Раз на два тыдні заняткі рэлігіі з каталікамі вядзе ксёндз Тадэуш Коцук з Кляшчэль. На гэтыя заняткі прыходзяць таксама вучні з недалёкай школы ў Грабаўцы.

1 верасня школьныя залы былі перапоўнены пахам свежай фарбы. Рамонт школы працягнуўся да 13 верасня, аднак гэта не перашкодзіла ў нармальным функцыянаванні школы (за выключэннем сталовай, якая пачала выдаваць абеды з 20 верасня), бо ўвесь рамонт праводзіўся тады навонкі будынка.

У школе вядуцца таксама пазаўрочныя заняткі. Дзяцьмі, якія даязджаюць, апякуецца школьная святліца, якую ў гэтым навучальным годзе вядзе трох настаўнікаў. У рамках пазаўрочных заняткаў дзейнічае спартыўны гурток, якім апякуецца Уладзімір Місяюк. Ужо ў гэтым годзе дубіцкія спартсмены дабіліся ў Гайнаўскім раёне поспехаў у бегах. Андрэй Тарасюк заняў 5-ае, а Пётр Люнда — 7-ае месцы. Гэтыя вучні паедуць на ваяводскія спаборніцтвы. У школе існуе турыстычна-краязнаўчы гурток, якім апякуеца настаўнік гісторыі Юрка Несцярук. Гурток арганізуе многія экскурсіі па нашай краіне. Апрача таго ў школе дзейнічае вучнёўскае самакіраванне, гістарычны гурток, гурток нямецкай мовы, Ліга аховы прыроды, Таварыства чырвонага крыжа.

Як і ў іншых школах, таксама і тут адчуваецца недахоп грошай на асноўныя дапаможнікі. У школе працуюць маладыя настаўнікі, якія клапоцяцца пра эстэтычны выгляд школьных зал. Свой вольны час прысвячаюць яны на дробныя рамонты школьнага абсталявання. У школе ёсць відэаапаратура і, вядома, прыдаўся б хоць адзін камп'ютэр згодна з патрабаваннямі сучаснасці. Грошы заўсёды дзесьці чакаюць, трэба толькі ўмець іх знайсці. Пастараемся, каб нашыя дзеці мелі роўны старт у жыццё з гарадскімі.

Над асветай павіс прывід рэформы. І калі гэтыя змены наступяць, няхай будуць яны разважнымі і прадуманымі. Няхай служаць дабру дзяцей, а не прадаўжаюць ім у бясконцасць шлях у школу.

**СЛАВАМІР КУЛІК**

*Пераклала Галіна Трашчотка*

## Хваляванні (ці толькі) гарадоцкай асветы

☛ *Працяг са стар. 1*

жоўваецца ў самым лепшым выпадку да ўплыву на бацькоў.

У 1992/93 навучальным годзе ў Гарадку ўдалося сарганізаваць навучанне беларускай мовы на ўзроўні II, III і IV класаў - усе яны, з мусу, праходзілі адну і тую ж праграму, паколькі ўсе толькі пачыналі. Але вось у гэтым навучальным годзе V клас кінуў беларускую мову. „Мы спрафіляваны клас (спартыўны) і нам надта многа працы" — сказалі. Навучанне надалей праводзіцца на тых жа, што і раней узроўнях - адзін клас перастаў, але ж знайшліся новыя ахвотнікі з II класа. Клопату з дзеткамі няма - сказала настаўніца Галіна Паплаўская. На беларускую мову ходзяць найчасцей добрыя вучні. Абагульняць аднак нельга - трапляюцца і слабейшыя, якім бацькі прыказалі: "Калі ў школе вучаць, то хадзіць трэба". У мінулым годзе быў клопат з падручнікамі ("Букварамі"), але дапамагла Вольга Сянкевіч, хоць і не працавала яна ўжо тады метадыкам. Таксама ў мінулым годзе вучні Г. Паплаўскай прынялі ўдзел у конкурсе "Беларуская песня" - войт даў аўтобус ды такім чынам у Бельск змаглі паехаць усе навучэнцы Г. Паплаўскай. Частка з іх выступала, а рэшта заняла месцы сярод публікі. Заваявалі там вылучэнне. Дзецям усё марыцца, сказала настаўніца, каб паехаць у Беларусь і пабачыць, як самі кажуць, сапраўдную беларускую школу.

Ці актуальнае адраджэнне навучання беларускай мове ў Гарадку пратрывае час нейкі? Калі ўзяць пад увагу абсалютную колькасць дзяцей, якія вучацца гаварыць і пісаць у гэтым годзе і ў мінулым, то колькасць гэтая зменшылася - са звыш 60 да 43. Калі зняты быў абавязак вывучання рускай мовы ў школах, у Гарадку ўсе кінуліся на англійскую - рускай вучыцца адно VIII клас. Выбар замежнай мовы адбыўся таксама па прынцыпу апытання сярод бацькоў - з малою аднак розніцай, замежную мову вывучаць трэба абавязкова (не англійскую, то кітайскую), а дзеля вывучання роднай трэба сямёра дзетак і... бацькоўскай волі.

**АЛІК МАКСІМЮК**

## ДЗЯРЖАЎНЫ ГІМН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

11 кастрычніка г.г. журы конкурсу на Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь вырашала прыняць за тэкстуальную аснову гімна верш Янкі Купалы „Маладая Беларусь". Журы звярнулася да кампазітараў напісаць музыку да гэтага твора. Трэба спадзявацца, што кампазітары справяцца з музыкай хутчэй, чым журы з тэкстам.

**ЯНКА КУПАЛА**

### Маладая Беларусь

Вольны вецер напеў вольных песень табе,
Бор зялёны ўзняў дружным гоманам,
Сонца полымем вызвала к слаўнай сяўбе,
Зоры веру ўлілі сілам зломаным.

Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі;
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі!..

Смела ў сонцы ідзеш, як жывы агняцвет,
Сееш ласкава сны залацістыя;
Не пужае сумежны дакучны сусед,
Не пужае пуціна цярністая.

Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі;
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі!..

Ад мяжы да мяжы, ад канца да канца
Абнаўлення павевы расходзяцца,
Абнімае душу без граніц, без канца
Маці-радасць, што лепшы дзень родзіцца.

Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі;
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі!..

## НАДЗЕЯ НА ГІМНАСТЫЧНУЮ ЗАЛУ

У верасні 1989 г. белавежская Пачатковая школа атрымала новы прасторны будынак. Белавежцы думалі будаваць за адным махам таксама і гімнастычную залу. Была ўжо гатовая дакументацыя і сабрана частка будаўнічых матэрыялаў, але ўсё-такі намер не ўдалося здзейсніць. Вядома, з-за недахопу фінансавых сродкаў.

Грамадскі камітэт пабудовы залы, які завязаўся ў 1991 г., а які нефармальна ўзначальвае д-р Ежы М. Гутоўскі, хоча давесці ўсю справу да шчаслівага канца. Пачалі ад найважнейшага — накоплівання сродкаў, markрознымі спосабамі. Адначасова ўвесь час вяліся размовы з адпаведнымі ўладамі і ўстановамі наконт распачацця пабудовы. Шчасліва ўдалося пераадолець усе цяжкасці, часам зусім нечаканыя, і вось, 13 кастрычніка будаўнікі ўвайшлі на пляц.

Выканаўца — бельскі „Unibud" — плануе зрабіць да зімы раскопкі пад фундамент і заліць г. зв. лаву. Калі будзе магчымасць, паставяць яшчэ і частку апорнай канструкцыі. Галоўным інвестарам да канца г. г. будзе беластоцкая Куратория асветы. Потым інвестыцыю пяройме Гмінная ўправа ў Белавежы. На першы этап прац удалося сабраць 400 млн. злотых (200 млн. дала Куратория, па 100 млн. зл. — гміна і камітэт пабудовы). Мясцовае надлясніцтва ахвяравалася даць бясплатна пясок і гравій. Дык усё ж гэтыя сродкі — недастатковыя. Камітэт разлічвае, беручы патранат асветных улад, што можна будзе яшчэ „выцягнуць" нейкія сродкі з кішэні Міністэрства нацыянальнай адукацыі.

Усе, хто хацеў бы дапамагчы ў пабудове залы, могуць пералічваць грошы на рахунак н-р 905510-534-2710 у Спулдзельчым банку ў Белавежы, якім валодае Бацькоўскі камітэт пры Пачатковай школе. На бланку трэба зазначыць, што грошы прызначаюцца на „гімнастычную залу".

**ПЁТР БАЙКО**

## ШТО ЧУВАЦЬ У ЛІЦЭІ?

— У нас, як амаль ва ўсіх школах узнікаюць праблемы з грашыма, — гаворыць дырэктар Агульнаадукацыйнага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім Зінаіда Навіцкая.

— Атрымалі мы ад Куратора асветы 250 мільёнаў злотых на ацяпленне школьнага будынка. Гэтага, аднак, замала. Трэба яшчэ старацца прыдбаць дадатковыя фінансы. Маем таксама клопаты з памяшканнем. Будынак цеснаваты для дыдактычных патрэб. Настаўнікі працуюць салідна і аддана, а пазаўрочныя гурткі зацікаўленняў вядуць яны бясплатна. Хочам працягваць добрыя традыцыі школы, і ў далейшым мець пераможцаў прадметных алімпіяд і высокі працэнт выпускнікоў, паступіўшых у вышэйшыя навучальныя ўстановы. У гэтым годзе таксама займаюцца ў нас практыканты — сем студэнтаў беларускай філалогіі. Пачала працаваць новая настаўніца беларускай мовы Юлія Хмур. Звяртаем увагу на папулярызацыю беларускай мовы сярод вучняў. Гэта ўвогуле цяжкая і складаная справа, — закончыла дырэктар Зінаіда Навіцкая.

**Запісала ГАННА КАНДРАЦЮК**

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

*ГРАФІНЯ ДЭ СЭГЮР*

## ЗАЧАРАВАНАЯ ХАТКА
**-10-**

*КАЗКА*

*(Заканчэнне)*

Апамятаўшыся ад здзіўлення, Разалі шчыра падзякавала чараўніцы за яе апеку і спытала, ці хутка можна будзе ўбачыцца з бацькамі і Чароўным прынцам.

— Бацька ўжо чакае вас у палацы ў прынца, — адказала каралева феяў.

— Як? А я думала, што прынцаў палац разбураны, а сам прынц паранены і стаў жабраком.

— Усё гэта было не па-сапраўднаму і было зроблена толькі дзеля таго, каб вы мацней спалохаліся сваёй цікаўнасці і не саступілі ёй трэці раз. А прынцаў палац вы ўбачыце такім, які ён і быў, пакуль вы не падралі покрыва, пад якім хавалася каштоўнае дрэва, прызначанае вам у падарунак.

Пакуль чараўніца прамаўляла гэтыя словы, калясніца пад'ехала да палаца. На ганку Разалі ўжо чакалі бацька і прынц разам з усёю дворняй. Разалі кінулася да іх, і яны шчасліва абняліся. Прынц, здавалася, зусім забыў пра дрэнны ўчынак, які Разалі ўтварыла напярэдадні. Усё было ўжо гатовае да вяселля, і ягоны тут жа адсвяткавалі. На банкеце, які доўжыўся некалькі дзён, былі чараўніцы з усяе акругі. Разалін бацька застаўся жыць разам са сваімі дзецьмі. Разалі назаўжды пазбавілася сваёй цікаўнасці і пражыла з Чароўным прынцам у каханні ды шчасці ўсё жыццё. У іх нарадзіліся прыгожыя дзеці, і за хросніц ім былі абраныя добрыя чараўніцы, якія заўжды абараняли іх ад злых варажбітак і чарадзеяў.

**Пераклаў з французскай**
**ЗМІЦЕР КОЛАС**

З вучнёўскай творчасці

### НАД ВАДОЙ

Вада плыве, шуміць
І гладзіць каменьчыкі.
Дрыжаць язычкі —
Срэбныя струменьчыкі.

Вада любіць дзетак,
Вада любіць сонейка,
Вада любіць май.
Вада просіць: „Іграй",
Цвыркуне, песню дзеткам,
Песню сонейку і кветкам,
Іграй для нас, іграй!"

Цвыркун ваду слухае,
Ножкі звесіў у струмень,
І ў дудку дзьмухае
Ветрыкам вясеннім.

**АДА СЕМЯНЮК,**
**Беласток, III клас**



*У Ласінцы.* **Фота М. Лукшы**

З гісторыі Беларусі

## СКАРБЫ ЗЯМЛІ ГАРАДЗЕНСКАЙ

Зямля наша хавае незлічоныя скарбы, і сярод іх асаблівае месца займаюць матэрыяльныя сведчанні чалавечай дзейнасці. Метадычнае абследаванне гарадоў, мястэчкаў, рачных паплавоў штогод прыносіць новыя адкрыцці.

Нечакана былі выяўлены ў 1980 годзе на панадворку манастыра базыльянак у Гародні рэшткі муроў Прачысценскай царквы, якая з'яўляецца да шэрагу пабудоў мясцовай архітэктурнай школы другой паловы XII стагоддзя. Знаходка гэтая дазволіла гаварыць пра гарадзенскую школу дойлідства як заканамерную з'яву, што ўзнікла праз сінтэз прыяў валынскага і полацкага старажытнага дойлідства.

Да нядаўняга часу былі вядомыя толькі тры помнікі гарадзенскай архітэктуры XII стагоддзя: Барысаглебская (Каложская) і Ніжняя царквы ды княжацкі мураваны хорам. Пасля выяўлення муроў Прачысценскай царквы ў пісьмовых крыніцах пашанцавала адшукаць звесткі яшчэ пра два храмы. Месцазнаходжанне аднаго з іх было прасочана археолагам А. Краўцэвічам, калі пры раскопках каля Новага замка ўдалося адшукаць мноства плінфаў са слядамі вапнавай рошчыны. Пры вывучэнні Старога замка археолагу А. Трусаву пашчасціла знайсці фрагменты абарончых муроў дзядзінца — з'ява для XII стагоддзя унікальная. Па аналогіі з падобным збудаваннем у Кіеве, творцам якога быў Пётр Міланег, вядомы даследчык старажытнага будаўніцтва П. Раппапорт выказаў меркаванне, што пачынаў сваю дзейнасць вялікі дойлід мінуўшчыны ў Гародні.

Менавіта ў гарадзенскіх храмах былі выкладзены шматколерныя маёлікавыя падлогі, роўных якім пакуль не знойдзена. Гарадзенскія дойліды выкрышталізавалі ўласцівы толькі ім прыём аздаблення будынкаў. Фасады мураваных расквечваліся ўзорамі з рознакаляровых маёлікавых плітак. У плінфавую мураўку сцен уводзіліся да бляску адшліфаваныя рознапамерныя камяні. За кошт збанападобных галаснікоў майстры здолелі дасягнуць надзвычайнага акустычнага эфекту ў інтэр'ерах храмаў. Адкосы вакон-ных праёмаў упрыгожваліся фрэскавым роспісам.

Зямля беражліва захоўвае памяць пра славу і гонар нашых продкаў і раскрывае свае тайны толькі шчырым руплівцам на ніве гісторыі.

**ІГАР ЧАРНЯЎСКІ**

БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ

## У КАЗУ

У казу гуляюць галоўным чынам у полі, у час пасьбы коней — „каля коней". Перш за ўсё выбіраюць пастуха. Робіцца гэта так: дзеці шырока расстаўляюць ногі і, схіліўшыся, кідаюць шапкі назад. Чыя шапка ўпадзе бліжэй, той і павінен пасвіць коз. Тады ўбіваецца ў зямлю слупок, прывязваецца да яго аброць з повадам і даецца пастуху канец повада ў рукі. На такой адлегласці павінен пастух знаходзіцца ад слупка. Удзельнікі складаюць ля слупка свае шапкі, якія называюцца козамі.

Пастух бярэ ў рукі дубец або пугу і пасе коз, гэта значыць стараецца не дапусціць, каб нехта падбег да слупка і ўхапіў сваю шапку. Калі ж удасца ўхапіць тры казы (шапкі), пастуха гоняць скрозь строй. Усе ўдзельнікі зноў шырока расстаўляюць ногі, а пастух павінен на кукішках бегчы паміж імі. Пры гэтым яго б'юць шапкамі.

## НОВЫЯ ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

### ПІК-ПІК І ПЕПІТА НА ПАЛЯВАННІ

Аднойчы прачытала котка Пепіта казку пра тое, як пасварыліся каты і мышы і з тых часоў каты палююць на мышэй. Задумалася Пепіта: „А я, аднак жа, ніколі не палявала! Ні разу мышэй не ела! Ці я не сапраўдная котка?"

І вырашыла Пепіта заняцца паляваннем на мышэй згодна традыцыі продкаў. І мышка побач ёсць: Пік-Пік. Як жа дзейнічаць?

Прачытала Пепіта яшчэ раз казкі, успомніла мульцікі пра Тома і Джэры. Значыць, паляваць трэба так: кот сядае каля мышынай норкі і чакае, пакуль з'явіцца ахвяра. Цудоўна! Пепіта ўзяла шчотку, прычасала хвост, вусы і пайшла ў Веранічччын пакой, дзе пад шафай, як вядома, знаходзіцца норка мышкі Пік-Пік. Села Пепіта каля шафы і пачала чакаць. Чакала, чакала, надакучыла... Прынесла Пепіта маленькае раскладное крэсліца, каб зручней было, зноў сядзіць, чакае... Нудна. Схадзіла за вясёлым часопісам і кавалкам каўбаскі. Уселася ў крэсла, разгарнула часопіс, адкусіла каўбаскі... Так паляваць аказалася зусім не цяжка. Зайшла ў пакой Веранічка, папыталася:

— Што ты тут робіш, Пепіта?

— На мышку Пік-Пік палюю, — горда адказала Пепіта.

Здзівілася Веранічка, але не стала перашкаджаць. Між тым мышка Пік-Пік чула гэтую размову і вельмі зацікавілася: як гэта Пепіта на яе палюе? Высунулася Пік-Пік з норкі (Пепіта, канечне, гэтага з-за часопіса не заўважыла), і бачыць: сядзіць котка ў мяккім крэсле, есць каўбасу і чытае.

— О, гэтае паляванне вельмі добрая штука! — узрадавалася мышка. — Я таксама хачу паляваць!

Вярнулася мышка ў норку, выцягнула адтуль таксама маленькае крэсліца, сканфіскаванае ў Веранічччыных лялек, прыхапіла газетку і скрылёк каўбасы. Села насупраць Пепіты, есць, чытае... Камфорт! Падняла Пепіта вочы ад часопіса і здзівілася:

— А ты, Пік-Пік, што робіш?

А Пік-Пік адказала ёй поўным ротам:

— Як што? Хрум-хрум... Я таксама палюю... Хрум-хрум...

Пепіта аж разгубілася:

— На каго?!

— Як на каго? Хрум-хрум... На цябе... Хрум-хрум...

Здзівілася котка. Нешта пра такі выпадак у казках нічога не напісана... Але, падумаўшы, Пепіта змірылася: паляваць жа так прыемна... І сядзелі яны надалей адна супраць адной, грызлі каўбаску і чыталі.

Зайшоў у пакой тата:

— Чым займаемся, трутні? (Гэтак ласкава ён называе сваіх сямейных.)

— Палюем! — хорам адказалі Пік-Пік і Пепіта.

— На каго?

— Я на яе, яна на мяне!

Тата так здзівіўся, што не меў што сказаць і пайшоў, пахітваючы галавой. Між тым каўбаска даелася, газета і часопіс дачыталіся. Сядзець стала сумна.

— Ну што, разыдземся? — папыталася Пік-Пік калегу.

— Хіба што... — пазяхнула Пепіта. — Добра папалявалі...

— Заўтра яшчэ папалюем! — адказала мышка і пайшла ў норку драмаць.

А Пепіта пацягнула крэсла на месца. Яна адчувала, што выканала свой кашэчы доўг.

**ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ**

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ

Мы зробім падарожжа па неабсяжнай краіне Мовазнавіі, уладарка якой — каралева Мова. У адрозненне ад многіх казачных каралёў, яна не хавае свае багацці ад людзей, а, наадварот, шчодра дорыць іх кожнаму, хто толькі захоча іх мець. Яе называюць Чараўніцай, бо няма на свеце нічога больш чароўнага за словы, што ў казках адчыняюць патаемныя дзверы, а на яве здольны чароўным чынам уздзейнічаць на нас. Каралева Мова яшчэ і старанная гаспадыня — у яе краіне наладжаны добры парадак: усё дарэчы, усе на сваіх месцах, у кожнага свой абавязак і ўсюды ўзаемадапамога.

Дапамагаюць Мове яе падначаленыя: руплівыя гаспадыні ў сваіх гаспадарках-раздзелах. Усе яны займаюцца не толькі сур'ёзнымі пытаннямі мовазнаўства, але і цікавымі вясёлымі гульнямі.

Спачатку мы пойдзем у госці да гаспадынь першых раздзелаў, характар якіх выяўляецца ў наступных вершаваных радках:

*Фанетыка я, важная навука,*
*Бо вывучаю я змяненні гука,*
*І як патрэбна словы вымаўляць,*
*Заўсёды рада вам паведамляць.*

*Я — Графіка. Хачу сказаць,*
*Не прамаўчу,*
*Усіх я навучу*
*Прыгожа літары пісаць.*

*Я — Лексіка, заўжды гатова*
*Аж з цэлым светам гаварыць,*
*Раскрыць вам таямніцы слова,*
*Усе скарбы мовы падарыць.*

**ФАНЕТЫКА. ГРАФІКА**

**Гук — літара — склад — слова**

**Лічылка**

Лічылкі ведае кожны. Іх можна спяваць, яны дапамогуць перад гульнёй выбраць вядучага, падзяліць удзельнікаў гульні на каманды. Лічылак розных шмат, і вось яшчэ адна:

Як цудоўна гэта, дзеці,
Што ёсць літары на свеце —
Зычныя, галосныя!
Да адной адну дадаць —
Можна словы з іх складаць,
Смешныя, сур'ёзныя!
Слова ты —
Слова я.
Пачынаецца гульня.

Але перш чым пачынаць гульню, паслухайце гісторыю, якую аднойчы расказала гаспадыня Графіка. Называецца гісторыя —

**Палачкі на снезе**

Адзін хлопчык пачаў хадзіць у школу, але вучыўся не надта старанна. Мама мусіла па некалькі разоў клікаць яго з вуліцы, каб сеў за ўрокі. А яму — толькі б гуляць!

Неяк пасля ўрокаў зайшоў ён на лыжах далёка ў лес. Раптам з-за куста — воўк! Сярдзіты, калматы — вочы зыркаюць, зубы шчоўкаюць. Хлопчык спалохаўся. А воўк пытаецца:

— Ты чаго гэта тут туляешся? Ад каго хаваешся?

— Ад мамы, — ледзь вымавіў са страху хлопчык. — Яна заве мяне ўрокі рабіць...

— Ты хіба ўжо ходзіш у школу?

— Х-хаджу... з восені...

— Дык навучы мяне пісаць літары, — нечакана падабрэў воўк. — Хачу быць пісьменным. Навучыш — пушчу дадому жывым, а не — дык...

Разгубіўся хлопчык: ён жа не вельмі стараўся на ўроках запамінаць літары. Вырашыў схітрыць:

— Але ж няма чым пісаць, няма сшытка. Лепш адпусці мяне, воўк, дадому, я вазьму сшытак і аловак і прыбягу цябе вучыць. А сам думае: „Толькі б адпусціў, а там — хай чакае..."

— Паглядзі вакол, — кажа воўк, — вунь колькі галінак валяецца. Бяры палачку і пішы ёю на снезе.

— Але ж дарэмная гэта будзе работа! Вецер і сонца хутка сатруць літары. А калі ты адпусціш...

— Хітры ты, хлопча! — перабіў воўк. — Але я хітрэйшы. Бяры палачкі, каторыя таўсцейшыя, і выкладвай з і літары. Такім ні вецер, ні сонца не пашкодзяць. Я па іх яшчэ і ваўчанят буду вучыць. Так што спяшайся, калі не хочаш, каб я цябе з'еў!

Бачыць хлопчык, што нічога не застаецца рабіць, як выконваць воўчую просьбу. Падумаў-падумаў, узяў дзве роўныя палачкі і паклаў іх домікам. Яшчэ ўзяў кароткую і паклаў упоперак паміж лініямі доміка. Узрадаваўся: атрымалася!

— Вось, — кажа ваўку, — літара *А*. Пусці мяне дадому!

— Хіба ж ты дагэтуль адну толькі літару ў школе вывучыў? — здзівіўся воўк. — Выкладвай іншыя, тады пушчу.

Сорамна хлапцу прызнацца, што абы-як вучыўся, і пачаў ён успамінаць іншыя літары, думаць, як напісаць іх палачкамі. І цяпер яшчэ думае...

Давайце дапаможам яму. Хто хутчэй?

Для гэтага трэба мець палачкі (ці кавалачкі ізаляванага дроту, палоскі кардону, запалкі з абпаленымі галоўкамі і г.д.) даўжэйшыя, прыкладна 5-7 см, карацейшыя — 2-4 см. З іх і можна выкласці літары — калі не на снезе, то на стале (**У**, **М** і г.д.).

*(Працяг у наступным нумары)*

## ЛІЧЫЛКІ

Раз, два, тры, чатыры,
Пяць, шэсць, сем, восем,
Выйшла баба з доўгім носам,
А за бабай сівы дзед,
Колькі дзеду таму лет?

* * *

Раз, два — рукава,
Тры, чатыры — нос ў чарніле,
Пяць, шэсць — кашу есць,
Сем, восем — сена косім,
Дзевяць, дзесяць — Мішу просім.

* * *

Раз, два — кружава,
Тры, чатыры — пачапілі,
Пяць, шэсць — кашу есць,
Сем, восем — сена косім,
Дзевяць, дзесяць — грошы
весіць.
Грош згубілі, два знайшлі —
У карчму усе пайшлі:
Чай піць, кубкі б'юць,
На стол грошыкі кладуць.

* * *

Раз, два — булдава,
Тры, чатыры — пачапілі,
Пяць, шэсць — недзе сесць,
Сем, восем — сена косім,
Дзевяць, дзесяць — сена весіць.

* * *

Раз, два, тры, чатыры,
Кошку грамаце вучылі:
Не чытаць, не пісаць,
А за мышкамі скакаць.

* * *

Раз, два, тры, чатыры,
Мяне грамаце вучылі:
Не чытаць, не пісаць,
Толькі ў поплясы скакаць.
Я скакала, я скакала,
Сабе ножку я зламала.

* * *

Раз, два, тры, чатыры,
Мы стаялі на кварціры,
Чай пілі, кубкі білі,
Па капейцы заплацілі.
Адам, Сцяпан, падай стакан!
Падай лімон — убірайся вон!

* * *

Раз, два, тры, чатыры, пяць,
Выйшаў зайчык пагуляць,
А за зайцам — шэры воўк,
Воўк у зайцах знае толк.

* * *

Раз, два, тры, чатыры, пяць,
Выйшаў зайчык пагуляць.
А за зайчыкам луна,
Просіць выйсці калдуна.

* * *

Раз, два, тры, чатыры, пяць,
Выйшаў зайчык пагуляць.
Трох ахотнікаў напала,
Майго зайчыка злапала.
Піф-паф, о-ё-ёй,
Памірае зайчык мой.
Прынясі яго дамой,
Паглядзелі — ён жывой.

* * *

Раз, два, тры, чатыры,
Пяць, шэсць, сем, восем,
Мы цябе, стукач, папросім.

* * *

Раз, два, тры, чатыры, пяць,
Выйшаў месяц пагуляць,
А за месяцам луна —
Аставайся ты адна.

*ЭДЗІ АГНЯЦВЕТ*

**ЦЫМБАЛЫ**

У цымбаліста -- дзіва-рукі,
Нам падарыў на радасць ён:
Дажджынак светлых перагукі,
Зязюлі кліч,
пчаліны звон.
І струны ўдалеч павялі,
Як сцежкі роднае зямлі.

**ДУДКА**

Мы з дзедам дудку змайстравалі,
Яна зайграла на зары,
Музычнай казкаю назвалі --
Прыходзьце,
слухайце, сябры!

Сініцы, берасцянкі быццам
З акенца дудачкі ляцяць.
А як паклічу я крыніцы, --
Галаснікі аж зазвіняць!

І над усёй зямлёй, здаецца,
Вясёлка звонкая ўзышла.
Жывое мае дудка сэрца --
Для песень шчырых і святла.

**СКРЫПКА**

Конік у лузе на скрыпцы зайграў --
Светнік, рамонкі, вярбу чараваў.

Скрыпка пявучая ёсць і ў мяне,
Ёсць таямніцы ў кожнай струне:
Смыкам гукаю мелодыі лета,
З конікам разам іграем дуэтам.

**БУБЕН**

Эй, грымяць званочкі-бомы,
Перасмешкі, пераклік.
Бубен, бубен, ты вядомы
Весялун і жартаўнік!

## КАЛЯРОВАЯ "ЗОРКА"



*Памалюй палі пазначаныя "1" жоўтым, "2" чырвоным, "3" блакітным колерам і ўбачыш, каго намаляў наш сябра сербалужычанін Вілі Мэзэ.*

## З НАРОДНАГА ГУМАРУ

Шавец, аддаючы заказчыку новыя боты, сказаў:

— Тыдні са два вашы боты будуць крыху ціснуць. Не крыўдуйце!

— Э! Нічога, пацярплю. Два тыдні я яшчэ і ў старых пахаджу, а новыя няхай пастаяць.

# ПАРНАСік
ЧЫТАЛЬНІЦКАЯ ЛІТСУПОЛКА НА НЕГАРАНТАВАНЫХ ПАЯХ

*МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК*

**НА З'ЕЗД КАРЭСПАНДЭНТАЎ „НІВЫ"**

Вітаю ўсіх сардэчна!
Жыць нам у дружбе вечна!
Можам не згаджацца,
У поглядах мяняцца...

Ад таго мы ёсць.
Нас „закінуў лёс..."
Бліжэй быць газеты
І дайсці да мэты,

Праўду разгартаць
І адпор даваць
Рознай масці зла
І спаліць датла, —

Розумам, пяром.
На сябе бяром
Як адказнасць, гонар
— Мы народны донар.

Праўда ў час балючая,
Часта і калючая,
Радзей асалодная
А хутчэй, так „модная".

Дык мы авангард,
На штось кожны варт
Нешта ўчыніць,
Зло-пачын спыніць.

Мо на больш не стаць.
Будзем падымаць
Сцяг „Пагоні", Слова.
У „Ніве" ёсць аднова.

Чэрпаць з яе сілы,
Слухай, брат мой мілы;
Заўжды быць з народам
Беларускім родам.

Дык мы, карэспандэнты,
Род зямельный рэнты
І ў няпоўным ліку
Крочым у пераліку:

Янка Целушэцкі
Юны, маладзецкі
Гэта паланіст
І паэт-артыст,

Верны Гаўрылюк,
Дбайны Лук'янюк,
Здольны Байко Пётр,
Цэлы яго род.

Інжынер, вучоны
Шлю яму паклоны —
Гэта Барыслаў,
Хто яго назваў?

Сёння, як учора
Ёсць у нас Аўрора,
Піша аб народзе
І яго прыгодзе.

А Мароз наш Грышка,
Дабрадушны „Мішка"
Ціха „зараве",
Ў род наш прызаве.

А Дзед Усявед —
Колькі табе лет?
Рэдкі Ты наш госць,
З дальных мо' валосць?

Шатыловіч Дзміцер
Ты паэт, ці хіцер?
Í прабач мой спор,
Хоць даваў адпор.

Я халоп — мужык,
Да ўсяго прывык,
Найслабейшы з вас.
— Гэта мой парнас.

Рэшта выбачайце,
Голас падымайце
На старонках „Нівы"
Дбайна, не ляніва.

Шлю паклон рэдакцыі
З асаблівай рацыяй
— Радасцю, пашанай.
Праўдаю без манаў.

Міpановіч Друг,
Да тваіх паслуг
— Мы прыбылі ў „Ніву",
Бо настала жніва.

Будзе з'езд і спрэчкі,
Цеплыня без печкі,
Шчыра і без „моды"
Дойдзем мы да згоды!

**НА ДУШЫ ВОСЕНЬ**

Позняя восень ужо наступіла,
Свае дзянёчкі пакараціла.
Ночы даўжэйшыя, цёмныя,
Для разгаворак пустых і сну —
плённыя.

Калісьці бывала інакш,
На вечарынках гучала мякчэй
Родная мова і смех весялей,
Ішлі мы ў паходзе смялей.

Аўтарытэт і пашана,
Што не магла разбурыць тая мана,
Што царавала кругом
У гмінных уладах, а не пад углом.

Цяпер, калі маем свабоду,
Карыстаемся ёю на моду,
Каб стаць бізнесменам і слаўным,
Наканец чалавекам абманным.

Восень — прыгожая пара.
У нашай душы ёсць нара,
Куды мы надоўга схавалі
Свой гонар... у труне пахавалі.

Сапраўдная восень — ад Бога,
Подых яе ад парога
Чуем яе смакавіты,
Цудоўны, багат каларытам.

Восень заўсёды цудоўная.
Чалавеча рыса адмоўная:
Можа кахаць і любіць,
А скора ўсё гэта разбіць.

Беларусы — браты, дык не позна
Паважаць і любіць яшчэ можна
Саміх сябе і другіх, нашу мову,
Нават няскладну размову.

# ЕДУЧЫ НА З'ЕЗД

Калі атрымаў я запрашэнне на з'езд карэспандэнтаў „Нівы", вельмі ўцешыўся, што сустрэну там сваіх старых добрых знаёмых. У Беласток прыехаў я цягнікам з Ольштына а 4 гадзіне раніцы, падаўся на вакзал і вось што ўбачыў. Людзей, як мурашак: ляжаць яны на падлозе, як у прыстанішчы для бяздомных. Усе чужынцы: пад галовамі ў іх мяшкі і сумкі, адны спяць і храпуць, іншыя — ядуць і папіваюць. Жахнуўся я, калі гэта ўбачыў і падаўся ў бар: там людзі стаяць пры паліцах і ядуць, сядзяць пры століках, сядзяць на падлозе; усюды брудна, поўна гідкага паху людскога поту. Тры „саветкі" бутэльку „Маскоўскай" пілі кубачкамі — у адзін міг пляшка ляснула, закусілі цыбуляй, абцерлі рукавамі губы і пачалі аб нечым гутарыць. „Вось дэмакратыя" — пракаментаваў мужчына, які сядзеў побач мяне. Калі развіднела, пайшоў я паснедаць да сваякоў, пасля падаўся ў рэдакцыю „Нівы".

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

*ДЗМІТРЫЙ ШАТЫЛОВІЧ*

**ЖАНЧЫНА**

Аэрадром у Ранчы [1] невялікі,
На самалёт чакае поўны хол.
І вось пры мне сядае побач з шыкам
Цудоўная жанчына, як анёл.

Яе тварззяе цёплай белізною.
А валасы, як ноч яе зямлі,
Бліскаюць антрацытам і расою,
Калі загляне месяц на палі.

І бровы чорныя. Як вугаль, вочы,
І вусны далікатныя, і нос.
Гармонію рысаў нейкі зодчы,
Як чараўнік, на твар яе нанёс.

Чырвоныя, як макі летам, губы,
І круглыя дзве грудзі, як шары,
І белыя, як снег паўночны, зубы —
Адну прыемнасць створаны дарыць.

І стройная фігура ў доўгім сары,
І рукі ў бранзалетах залатых.
Каралі ды бляск радасці на твары
Ласкаюць нейкім воблікам святым.

Здаецца, што сядзіць пры мне багіня,
Святая Лякшмі [2], толькі з парай рук,
Не лотас мае, а букет вяргініяў,
Не дыск з дубінай, а рамень-ланцуг.

Я быў захоплены яе красою,
Глядзеў ды слова ёй сказаць не мог.
Прад ёй, як прад іконаю святою,
Гатоў быў пакланіцца, аж да ног.

Ды раптам падбягае чорны хлопец,
Нязграбны, таўсташчокі сын яе,
Сказаў ёй нешта, відна, што тарапіць,
А нехта знак рукою ёй дае.

То муж яе няўклюдны, чарнаскуры
Паказваў ёй на вольны ўжо ўваход.
І громам задрыжэлі зверху муры,
То прыляцеў з Калькуты самалёт.

Ачнуўся я з кароткага гіпнозу,
Ад жалю ледзь не ўпаў я ў дзіўны транс.
Пад вейкамі пачуў я толькі слёзы
Убачыўшы ўвесь гэты мезальянс.

*1/ Ранчы — горад у Індыі ў штаце Біхар.*
*2/ Лякшмі — індыйская багіня красы і шчасця, жонка бога Вішну. На карцінах прадстаўляюць яе як вельмі прыгожую жанчыну з чатырма рукамі, якія трымаюць лотас, дыск, дубіну і ракавіну. Часта паказваюць яе, як раскідае залатыя манеты навокал сябе.*

**Я ФАРБАВАНЫХ НЕ ЛЮБЛЮ ЖАНЧЫН**

Я фарбаваных не люблю жанчын.
Ты і без фарбы цешыш нас красой,
Ты без яе прыцягваеш мужчын.
Не будзь ты штучнай, толькі будзь сабой.

На што табе той касметычны грым,
Якім, бы тынкам, ты пакрыла твар?
Нашто сіняк пад вокам, як нарыў?
Не лепшы быў бы сонечны загар?

Чаруе нас прычоскай галава
І гібкі стан, як свежая вярба,
І твар цудоўны — толькі цалаваць,
Калі б не фарбы на тваіх губах.

Як бісер, ззяе дробная сляза,
І зрэнкі свецяць водбліскам свячэй.
Ласкалі б вочы, быццам біруза,
Калі б не вейкі з сажай ля вачэй.

А рукі далікатныя, як шоўк,
Мяне напэўна б вабілі мацней.
Калі б не чырвань ногцяў, быццам кроў,
Якіх, бы кіпцюры, я бачу ў сне.

Без фарбаў ты прыгожая для ўсіх.
Дык кінь іх і ўжо больш іх не ўжывай
І не глядзі зайздросна на другіх...
Яны брыдчэйшыя, і ты ім спачувай!

*МІКАЛАЙ ЛУК'ЯНЮК*

**ПУСТЭЧА**

Апусцелі ўсе палі,
Лугі й сенажаці.
Пачалі ужо пусцець
Сялянскія хаты.

Моладзь ў гарады пайшла,
Там п'юць ды гуляюць,
А калі бракуе грошай,
Крамы разбіваюць!

— Дзе прапалі сторажы? —
Пытаюся смела.
— Яны лідэраў пільнуюць,
Каб на іх халера!

Лідэры для іх усё —
Гонар ды пашана
А вясковец і рабочы
То „арабаў" пара.

**ПЕНСІЯНЕР**

За санацыі я радзіўся,
А ў камуне працаваў.
Мала помню, калі Гітлер
Людзей нашых катаваў.

За камуны я разжыўся
І на пенсію пайшоў.
Як далі мне тыраста тысяч,
Іх хапала мне на ўсё.

А цяперка, даражэнькі,
Дастаю я аж мільён!
Аплаціўшы ўсе падаткі,
Астаюся... галышом.

Туды дзвесце, сюды трыста,
Глянеш — пусты кашалёк!
І падумаеш са злосцю:
„Каб хутчэй той лад падох!"

**КАЛІ Б Я МОГ!..**

Каб я мог перавярнуць
Увесь свет на свой манер,
Зрабіў бы я усім дабро,
Каб людзям жыці на зямлі.
Зараз зіму б я скасаваў,
Каб і марозу не было,
Каб замест снегу цукар стаў,
З неба гарэлачкай цякло.
Замест галля былі б каўбасы,
Замест лісткоў былі б блінцы,
Зямля была б з самое кашы,
З самое чорнае слачы.
А крэніцэ ўсе з чорным квасам,
Каб аж у носе закруціў,
А чалавек з пахмелля часам
З яе напіцца захацеў.
Тады адзёжай нам не трэба,
Не трэба цёплых жупаноў,
Хадзіў бы, як святы на небе –
І без кашулі, без штаноў...

*Ад ЁЗІКА СМАКТУНОВІЧА*
*запісаў Мікола Лук'янюк*

*АЎРОРА*

**ПРЫЙШЛО!**

Быў дажджлівы
летні дзень.
Яркі агонь
у Яго вачах.

На сэрцы
стала цяплей.
Дождж стаў
праменнямі сонца!

У душы
радасць спявала –
яно прыйшло,
прыйшло, прыйшло!

Маё першае
летняе, незабыўнае,
шчырае, вернае
маладое каханне.

**БЫЛІ**

Былі дні вясёлыя.
Былі ночы зорныя.
Былі дні дажджлівыя.
Былі ночы парныя.

Было шмат радасці.
Было трохі нянавісці.
Было шмат чакання.
Было трохі кахання.

Былі вёсны цёплыя.
Былі зімы марозныя.
Былі леты дажджлівыя.
Былі восені плённыя.

Адышло ўсё далёка.
Няма чым цешыць
Нашае зялёнае вока.
Што з жыцця астаецца?

*ВАСІЛЬ ПЕТРУЧУК*

**ЦЫВІЛІЗАЦЫЯ!**

Посадыв дыед грушку
(Выросла хороша).
Сын збырав плоды,
Внук зрубав, бы сушку,
Як став молодым.
Вуон жэ ж господар!
Вжэ знае, як жыты:
— Вколо хаты брук і жвыр,
А груш можна й купыты.

# АДКРЫТЫ ЛІСТ

**У 43 нумары „Нівы” ад 24 кастрычніка 1993 г. мы перадрукавалі фрагменты інтэрв’ю беластоцкіх каталіцкіх іерархаў для часопіса „Gość Niedzielny” пад загалоўкам „Problemy z sąsiadami”. Сёння друкуем ліст Праваслаўнага брацтва і БГКТ у гэтай справе.**

**List otwarty do**
**Jego Excelencji**
**Arcybiskupa**
**Stanisława Szymeckiego,**
**Metropolity Białostockiego.**

Excelencjo!

Z niepokojem śledzimy opinie wyrażone przez najbliższych współpracowników Waszej Excelencji w prasie, a szczególnie dotyczy to wypowiedzi ks. bpa Edwarda Ozorowskiego oraz ks. prał. Stanisława Piotrowskiego, zamieszczonych w "Gościu Niedzielnym" z dn. 29.08.93 , w artykule "Problemy z sąsiadami". Poglądy, prezentowane tam przez Autorów mogłyby pozostać ich wstydliwą sprawą, gdyby nie fakt zamieszczenia ich w tygodniku o zasięgu ogólnopolskim, rozpowszechnianych w świątyniach, dzięki czemu stworzono wrażenie, że jest to opinia całego Kościoła. Opinia zawierająca półprawdy, przekłamania, nie licująca z osobą biskupa, teologa czy naukowca. Do takich zaliczamy wypowiedzi: "... Przed wojną współżycie katolików i prawosławnych układało się bardzo dobrze. Nie było żadnych scysji i konfliktów".

Po wojnie zaś "...Białystok jak i okolice były rządzone przez prawosławnych, którzy byli wtedy ludźmi partyjnymi. Władze sprzyjały więc bardziej Kościołowi prawosławnemu niż katolickiemu". Obecnie natomiast "...pod parasolem wyznania budzi się w nich dążenie do uzyskania państwowości białoruskiej... Do roku 1989 na tych terenach nie było w ogóle białorusinów" (ks.prał. S. Piotrowski). Powyższą wypowiedź wspiera a zarazem radykalizuje ks. bp E. Ozorowski: "... Car prawosławnych uważał za swoich poddanych, bo to był tytuł do wtrącania się bezpośrednio w sprawy polskie. Tę samą politykę stosowali następnie komuniści, którzy co prawda u siebie cerkiew zwalczali, ale na zewnątrz ją wszędzie popierali. **Moskwa prawosławnych traktowała jak swoich poddanych. W związku z tym na wyznawców prawosławia kładzie się cień, że oni są na usługach Moskwy... Polacy czują się zagrożeni taką sytuacją, gdyż polskość jest tu nieustannie kwestionowana i trzeba ją nieustannie udowadniać. A ponieważ rząd tego nie widzi, Kościół musi** w tej kwestii zajmować stanowisko i polskości bronić".

O ile część wypowiedzi, dotycząca uwarunkowań politycznych, jest świadomym fałszowaniem faktów historycznych, to opinie o budowaniu państwowości białoruskiej są wierutnym kłamstwem, wręcz zachęcającym do aktów nietolerancji wobec prawosławnych. Przypisywanie obywatelom Polski winy za politykę cara jest wręcz niemoralne, oskarżanie zaś prawosławnych o pozostawanie na usługach Moskwy jest prowokacją polityczną. Jakie bowiem "znaki" może przytoczyć na dowód swych twierdzeń ks. bp Ozorowski? Mniemanie o "pozostawaniu prawosławnych na usługach Moskwy" jest tyleż warte, co stwierdzenie ks. Piotrowskiego, że "przed wojną współżycie katolików i prawosławnych układało się dobrze". Wielu spośród żyjących do dziś prawosławnych pamięta czasy rewindykacji świątyń, wyroki sądów odbierających majątek Cerkwi i świątynie w ramach akcji "dopasowywania do potrzeb". Pamiętają rok 1938, gdy w przeciągu dwóch miesięcy rozebrano 400 (czterysta) cerkwi. Za zbrodnie faszyzmu polscy biskupi przeprosili Niemców. Za zburzone cerkwie, deptany Najśw. Sakrament, spalone ikony-wizerunki Zbawiciela, Matki Bożej, wspólnych świętych, biskupi nie wyznaczyli sobie pokuty by przeprosić Boga, ani prawosławnym nie powiedzieli zdawkowego "przepraszam". W Białymstoku o tamtych czasach świadczą cerkwie zamienione na kościoły: przy ul. Pułkowej, Kawaleryjskiej oraz rozebrana cerkiew Zmartwychwstania, z której materiały użyto do budowy ogrodzenia kościoła św. Rocha. To wówczas rewindykacyjny sąd, korzystając z zalegalizowania wobec prawosławnych bezprawia usankcjonował siłowe odebranie Cerkwi monasteru supraskiego. I to ma być powód do twierdzenia, że wszystko wówczas w Polsce było dobrze?

Pociesza nas fakt, że nie musimy, wzorem ks. bpa Ozorowskiego, udowadniać naszej białoruskości. O naszej obecności na tych ziemiach świadczą cerkwie i parafie szczycące się ponad dziewięćsetletnią tradycją oraz państwowe dokumenty z okresu Jagiellonów - pisane cerkiewnosłowiańskimi literami i w mowie, którą lud posługuje się do dziś. Jesteśmy dumni z tego, tak samo jak Polacy mówiący swoim językiem w Rosji, na Białorusi, Ukrainie czy w Ameryce.

PAMIĘTAĆ JEDNAK NALEŻY O TYM, IŻ PODLASIE ZOSTAŁO PRZYŁĄCZONE DO POLSKI W ROKU 1569! MY TU BYLIŚMY ZAWSZE I PRAWA DO OJCZYZNY NIE MUSIMY UDOWADNIAĆ!!!

Prawosławni za polskie obywatelstwo płacili własną krwią i własnym życiem!!! Gdy po wojnie wracali z łagrów i różnych frontów do ojczystej ziemi, do własnych domów, nie wybierali ani nie decydowali o tym, jaka będzie Polska. Służyli Polsce jak umieli i nie ich winą jest, że nie tych co trzeba Polaków posłuchali. Kryterium było proste: ci pozwalają być sobą. Prawosławni w Białymstoku, jeżeli nawet bywali "u władzy", to nie rządzili, a wykonywali polecenia z Warszawy, a tam decydowali "partyjni katolicy". Powojenne losy prawosławnych w Polsce były podobne do katolickich. Metropolita Dionizy (Waledyński) od samego początku był internowany i aż do śmierci w roku 1959 nie miał prawa opuścić miejsca odosobnienia. Internowano wielu duchownych. Jeszcze więcej siedziało w więzieniach za obronę resztek ocalałych nieruchomości, prawo do procesji, nabożeństw. Jedynym "przywilejem", który ominął katolików - była akcja "Wisła", której dostąpili prawosławni z Lubelszczyzny. Wydaje się, że Kościół ma do komunistów pretensje za to, że udzielając pozwoleń na budowę nowych kościołów, czasem pozwalali wybudować i cerkiew. Obowiązująca obecnie w Białymstoku "zasada" - niech i dyletant, byle nie prawosławny - może zaowocować u potomnych domniemaniem, że komunizm był mniej dyskryminacyjny. Ale to też nie będzie ani zasługą, ani winą prawosławnych. To nie przed prawosławnymi trzeba bronić Polski. Należy Jej bronić przed takimi kapłanami, jak Autorzy wypowiedzi w "Gościu Niedzielnym" oraz politykami, którzy takich ludzi stawią sobie za wzór. Gdy uwolnimy się od takich postaw, można będzie pomyśleć o wspólnej obronie dobrego imienia Polski, by nikt jej nie postrzegał przez pryzmat nietolerancji, nienawiści. Mieliśmy podstawy sądzić, że taka współpraca się zacznie, gdy witaliśmy w naszej białostockiej cerkwi Papieża-Polaka. Od Was, Eminencjo, i od Waszych współpracowników zależy, czy tę wizytę będziemy wspominać jako znak nadziei, czy też będziemy się czuli jeszcze raz oszukani. Chcemy wierzyć, że głosami Waszych współpracowników kierowały emocje, przesłaniające im zdolność widzenia potrzeb różnorodnej wyznaniowo społeczności i honoru swojego Kościoła. Przykro nam bowiem konstatować fakt, iż jeszcze raz nie Kościół, a politycy okazali się bardziej dżentelmeńscy, przywracając Cerkwi należne Jej prawa do klasztoru w Supraślu. Bogu dziękujemy za ich rozwagę i prawość. Ufamy również, iż Bóg wspomoże nas, tak jak wspomagał przez wieki, gdy niweczył plany tych, którzy wydawali na nas wyroki. Zdajemy jednak sprawę, że Bóg czeka na porozumienie między ludźmi, na dowód, że słowa nie mijają się z dobrymi uczynkami. Czekamy na dobry przykład i zachętę do wspólnej pracy dla dobra wspólnej Ojczyzny!

W imieniu Zarządu Głównego BTSK:
przewodniczący — Jan Syczewski,
sekretarz — Walentyna Łaskiewicz

W imieniu ZG Bractwa Prawosławnego w Polsce:
przewodniczący — Michał Małofiejew
członkowie: Eugeniusz Czykwin
Jarosław Werdoni
Antoni Mironowicz
Mikołaj Wawreniuk

# ПРАВАСЛАЎНЫ КАЛЯНДАР НА 1994 ГОД

Паказаўся ў цэрквах адрыўны „Праваслаўны каляндар на 1994 г.” на польскай мове, выдадзены суполкай ORTHDRUK у Беластоку. У сувязі з тым, што Праваслаўная мітраполія ў Варшаве апошнімі гадамі выдае нецікавыя і вельмі скромныя календары, трэба пахваліць рэдактара Яна Смыка за новае выданне. Гэта, мабыць, першы праваслаўны адрыўны каляндар, які паявіўся ў Польшчы пасля другой сусветнай вайны. На кожнай картцы календара паказаны даты па новаму і старому стылях, імёны праваслаўных святых, якія святкуюцца ў гэтыя дні, а таксама нумары сціхоў Біблії і Евангелля, якія адносяцца да гэтых дат. На кожнай картцы змешчаны даты двух дзён. На адвароце кожнай карткі знаходзяцца цікавыя весткі аб Усяленскіх Саборах, растлумачаны ўсе важнейшыя праваслаўныя святы — іх паўстанне і іх значэнне, часамі даюца ўрыўкі з Евангелля на даны дзень і апісанне жыцця многіх святых, прызнаных Праваслаўнай Царквой. На многіх старонках ёсць тлумачэнні (у алфавітным парадку) многіх слоў, якія ўжываюцца ў праваслаўнай літургії і ў абыходзе, напр. агапа, алілуя, дараносіца, дыкірый і т.п. Апісаны ў календары многія цэрквы ў Варшаве, нават тыя, якія былі заменены на касцёлы, разабраныя альбо разбураныя (перад першай сусветнай вайной было ў Варшаве амаль 30 праваслаўных цэркваў, калі лічыць дамашнія.). Многа пішацца аб Супрасльскім манастыры, аб Грабарцы, аб манастыры св. Ануфрыя ў Яблачыне, аб Праваслаўным брацтве, аб фестывалі царкоўнай музыкі і т. п. У артыкуле „Праваслаўе” пералічана, якія догматы, зацверджаныя рымскімі папамі, не прызнаюцца Праваслаўнай Царквой. Тэксты ў каляндар напісалі Міхал Болтрык, Ян Смык, Рыгор Місіюк. Тэалагічным кансультантам быў, між іншым, а. Рыгор Сасна. Я думаю, што кожнаму праваслаўнаму спатрэбіцца свой каляндар. Маю толькі адну заўвагу да тэкста, перадрукаванага з газеты „Rzeczpospolita”. Там пішацца, што Праваслаўная Царква існуе на тэрыторыі польскіх зямель з XIV стагоддзя. Гэта няпраўда. Нават у адносінах да зямель, якія цяпер належаць да Польшчы. З гісторыі ведаем, што ў IX стагоддзі ў Вялікамараўскае княства князем Святаполкам былі запрошаны святыя Кірыла і Мяфодзій. З 873 г. яны ўвялі хрысціянства ў Маравіі, а пасля ў Чэхіі і ў Краіне Віслянаў, якую падбіў Святаполк. На гэтых землях хрысціяне літургію служылі на стара-царкоўнаславянскай мове. На тэрыторыі сённяшняй паўднёва-ўсходняй Польшчы паўстала тады многа цэркваў, а ў Кракаве і ў Сандамежы — епархіі. Гэтыя цэрквы вытрымалі наступ латынізацыі за польскіх каралёў Баляслава Храбрага і Казіміра Аднавіцеля і пратрывалі да часу Ягайлы, калі пасля злучэння з Літвой зліліся з праваслаўнымі рускіх зямель. На гэту тэму маем многа навуковых прац польскіх гісторыкаў.

**Д. ШАТЫЛОВІЧ**

# АБ ІХ НІХТО НЕ МОЛІЦЦА

**Праз два гады будзем адзначаць сумную дату: 80 год з выбуху I сусветнай вайны, для нашых зямель — пачатку „бежанства”. Для жыхароў Беласточчыны гэтая вайна была не менш жорсткай, а можа нават больш трагічнай за другую. Не месца тут аднак распісвацца над прычынамі першай сусветнай катастрофы XX стагоддзя. Успомнім толькі ахвяры гэтай бессэнсоўнай інтрыгі.**

**У маіх руках „Акт”, выстаўлены 6 жніўня 1915 г. Дубяжынскім валасным старшынёю. Тут падрабязна апісваецца маёмасць майго прадзеда, рухомая і нерухомая, уключна з зямлёю. Усё на суму 8108 рублёў. „Акт” завяршае лаканічны сказ: *(...) имущество Павла Онуфриева Кондратюка уничтожено нашими войсками при наступленіи непріятеля.***

**Сямейны альбом адкрывае пажаўцелы фотаздымак. Год 1915. Царква, недзе ў Расіі... Над труною прадзеда пахіленая ўдава-прабабка, навокал дзеці. Дзевяць іх, дробненькіх і ўжо дарослых засталіся без бацькі. Вялікая вера маці дазволіла ім вярнуцца на бацькаўшчыну ў 1920 годзе. Тут, апрача крапівы на месцы дома ды маладых елак навокал ваенных магілак нічога яны не засталі.**

**Бельск-Студзіводы. Ваенныя могілкі ад 1915 г. Пахіляюся над адным ацалелым крыжом з намерам прачытаць імёны пахаваных. Пазней даведваюся, што тут спачывае разам 1010 нямецкіх і рускіх салдат... 1010 дзяцей, мужоў, радавых, афіцэраў... 1010 людскіх існаванняў, укінутых у жорны сусветнага зла. Пасля іх, як і па тысячах памерлых у гады „бежанства” нашых прадзедах было праліта ўжо мора слёз. І хаця мінула ўжо амаль стагоддзе, і час, здаецца, загаіў раны, трагедыя беларусаў, рускіх, немцаў... прадаўжаецца да сёння.**

**Скажыце, ці хто пакажа магілу майго прадзеда? Ці ёсць яшчэ след пасля яе?**

**Пакажыце могільнік салдат I сусветнай вайны на Беласточчыне, пра які б належна дбалі, дзе святар тварыў бы цяпер заўпакойную малітву?**

**А яшчэ да 1941 г. было зусім інакш. Успомнім толькі два такія могільнікі, у згаданых Студзіводах ды Аўгустове (гм. Бельск).**

**У міжваенны час абодва могільнікі былі належна дагледжаны. На магілах знаходзіліся крыжы, можна было прачытаць імёны пакойных салдат. У Аўгустове, на Пакрову, усе вернікі ішлі з царквы на ваенныя могілкі. Тут, супольна са святаром маліліся на магілах як рускіх, так і нямецкіх салдат. І гэта было людзям натуральнае. Жыхары Студзіводаў успамінаюць, як у 30-ыя гады прыязджалі з Нямеччыны людзі, каб нанава абгарадзіць могілкі. Ніхто да гэтых людзей не адчуваў нянавісці... Тым больш, што тутэйшыя беларусы ведалі, што сярод пахаваных ёсць таксама і рускія салдаты.**

**II сусветная вайна і новы пасляваенны лад вырашылі лёс гэтых могільнікаў. Зваліліся крыжы на аўгустоўскіх могілках, развалаклі драўляную агароджу на студзіводскіх, а выхаванцы новага ладу папалілі драўляныя крыжы... Навязвалі нам ідэю, што трэба адпомсціць акупанту. А пра рускіх салдат трэба было забыць.**

**Так зараслі могільнікі, зарастала і людская памяць...**

**Як бы на пацеху злу пачалі тут весяліцца падхмеленыя мужыкі, а мы — пакаленне 60/70-х гадоў гулялі ў хованкі сярод бэзавай гушчэчы, — аніяк не ўсведамляючы, што топчам людскія астанкі. Так і мы сталі ахвярамі вайны ды прадаўжальнікамі яе знішчальнай справы.**

* * *

**Пара ўсвядоміць і выправіць сваю віну...**

**У сакавіку г. г. жыхары Студзіводаў склалі на рукі Гарадской управы ў Бельску просьбу аб добраўпарадкаванні ваеннага нямецка-рускага могільніка ў гэтай мясцовасці.**

**МІКОЛА САХАРЭВІЧ**

# ПІСЬМЫ З ФЛАРЫДЫ

## (3)

Беларуская эміграцыя. Не такая яна заможная, як здаецца. Падобная сваім рэагаваннем да вясковых дзядзькоў ды цётак у Беластоку, Бельску, Саколцы. Гэтак жа загубленая ў гарадской блытаніне і мала што разумеючая пра шырокі свет. Хоць стаіць у кожным доме тэлевізар або і два, на дзесяткі каналаў (у Гэйнэсвіл трыццаць шэсць, у іх ліку іспанамоўныя для поўдня Штатаў з прыкметнай мексіканскай меншасцю).

Лічба эмігрантаў, якія лічаць сябе беларусамі, настолькі невялікая, што нельга параўнаць яе з аніякай іншай сярод амерыканскіх славянаў. Большасць нацыянальна цёмных імкнецца да расейцаў (калі хто праваслаўны); і да палякаў (католікі). Ненармальная нармальнасць нашай людзіны; дадам: не толькі на чужыне. Пішу я пра гэта без жалю, бачачы, як імгненна асімілюецца ўсякае маладое пакаленне, нават у -- відавочнай яшчэ меры польскім -- Чыкага. Амерыканцы жа наогул не прыдаюць значэння веравызнанню ці нацыянальнасці; іх цікавіць у чалавеку адно -- твая здольнасць зарабляць. Калі ў цябе акуратнае конта ў банку, тады ты добры патрыёт Злучаных Штатаў. Неафіты, зазвычай бедныя, дэманструюць сваю адданасць, вывешваючы над домам зорна-паласаты дзяржаўны сцяг. Змешаныя шлюбныя пары кладуць канец этнічнай асобнасці. Эмігранцкія дзеці не любяць жаніцца ў бацькоўскім асяроддзі, бо яно як другараднае не гарантуе адпаведнай кар'еры. Нешта падобнае ў маіх Крынках з рымска-каталіцкай дамінантай, у якіх "кацапка" сляпіцаю прэцца замуж за кавалера абавязкова паляка... Адбываецца ў выніку цуд шляхецтва. Скок з горшага ў лепшае, паводле яе.

Прычына высокіх тэмпаў амерыканізацыі народжаных тамака беларусікаў знаходзіцца, вядома, найперш у тым, што Злучаныя Штаты ёсць іх па-простy прыроднай айчынаю. І жывуць яны не ў нейкіх, накшталт даваенных у нас, гетах, але ў дыяспары, у распыленасці нярэдка на сотні міляў радзіна ад радзіны. Унукі цьмяна ўсягo ўяўляюць сабе, што дзяды былі прыбыўшымі сюды аднекуль з Еўропы. Учора выступаў у TV сенатар Маскі, патомны роду Марцішэўскіх (гэткае прозвішча не ўстане вымавіць ніводзін "янкі"). А Яновіч ім -- гэта Джэйнаўс; у лацінскай транслітарацыі. Англізацыя, асабліва імёнаў, непазбежная. У нас Яніны з Ніны ці Вацкі з Вячаслава цалкам не тая гісторыя; не мае нічога супольнага са звычайнай выгодаю дзеля ўзаемнай камунікацыі. Наадварот, мы па-ашуканску гуляем пад палякаў. Канспіруем.

Эмігранты, што час-часам адчуваюць патрэбу запрасіць да сябе каго з Бацькаўшчыны, ужо старыя людзі. Іх, натуральна, менш і менш. У іхных дачок і сыноў няма — і не можа быць -- комплексу выгнаннікаў. Ім ЗША -- гэта родная з родных краіна. Іх жа не цікавіць вельмі -- і не павінен -- наш лёс, беды і праблемы, як мала кранае мяне кругаварот, напрыклад, у Аргенціне, хоць там недзе пражывае ад паўвеку мой дзядзька... Тутэйшаму негру не Афрыка радзімаю. Беларускіх амерыканцаў вялічэе, а беларусаў меншае. Трохі дапаўняюць нацыяналаў тут хлопцы і дзяўчаты з Беласточчыны; спарадычна з Рэспублікі Беларусь.

Думаю, аднак, што набліжаецца канец Беларускай Амерыцы. Разам з загасаннем настрояў канфрантацыі паміж Захадам і Усходам. Да нядаўняга часу быць беларусам абазначала супрацівіцца русіфікатарскай савецкай экспансіі, выступаць за універсальныя каштоўнасці дэмакратыі. А цяпер? Ну што?! Дапамагаць выхаду Беларусі на міжнародную арэну. Ліквідаваць ейнае галотнае становішча. Так! Але, як многім гэта пад сілу? Гэта ж табе не бясплатная энтузіязмам дэманстрацыя пад бел-чырвона-белым сцягам пару гадамі назад ля аграмадзіны нью-йоркскай сядзібы Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў, у якой па-імперску элегантніліся масkoўскія дыпламаты Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублікаў.

Новаму часу ў гісторыі беларускага народа трэба новай сітуацыі, помачы з боку эмігрантаў-беларусаў у грамадска-палітычных вярхах Захаду, а іх, там, звычайна, няма і ніколі не было. У пераважнасці сваёй плебеі яны, якім далёка хаця б да ніжэйшых слаёў сапраўднай буржуазіі (некаторыя дасягнулі статус т. зв. сярэдняга класа (middle-class). Не чуваць пра беларускага Бжэзінскага... Або Салжаніцына (асталяваўся на поўначы ЗША).

Масавыя эміграцыі іншых народаў спецыялізуюцца як быццам у аваладанні паасобных структураў Злучаных Штатаў. Немцаў відаць у армейскай іерархіі; жыдоў -- у банкаўскай і ў масмэдыях; ірландцаў -- у судовых уладах; італьянцаў -- у гастраноміі і ў... мафіі; нідэрландцаў -- у марскім транспарце; французаў -- у колах набліжаных да медыцыны і мастацтва. Іспанамоўны элемент пачынае дамінаваць у выбраных вялікагарадскіх кварталах Усходняга і Заходняга Берагоўя; таксама ў былых мексіканскіх тэрыторыях Тэхаса ды ў напрамку Невады, не кажучы пра поўнае кубінцаў паўднёвае ўзбярэжжа Фларыды. Наглядаецца дэмаграфічны націск Лацінскай Амерыкі. Японцы выкупляюць матарызацыйную прамысловасць. Спадару Пятроўскаму дапамагае ў хатняй гаспадарцы маладая кітайская пара: яна -- афіцыянтка, ён -- студэнт матэматыкі і настаўнік кітайскай мовы ў мясцовай школе зямляцкіх яму эмігрантаў (іхныя прозвішчы я не ў сілах запамятаць).

Амерыку, пра якую мы гаворым, будуюць шматлікія нацыі. Пра беларусаў, наогул славянаў, пераважна ціха. Дзве гадзіны таму знакамітая CNN перадала ў тэлеэфір даволі працяглае інтэрв'ю Яўгенія Яўтушэнкі. Гэты, некалі слынны паэт хрушчоўскай Расіі, колькі гадоў ужо ціхамірна выкладае літаратуру ў правінцыйным універсітэце, дзесьці ў глыбокім штаце, і займаецца ангельскімі перакладамі сваіх улюбёных вершатворцаў. З болем кажа ён, што Расійская Зямля ўсё пляцецца ў хвасце глабальнай гісторыі... Менш трагічна выказваўся ўчора нехта Грыгор'еў, шэф бастонскай філіі Фонду Гарбачова.

Можна сказаць: расейцы -- амерыканцы пабойваюцца іх -- канкуруюць у палітыцы з палякамі. Гэта, аднак, сезоннае месца, не так трывалае, як: банк, фабрыка, галіна эканомікі, сістэма паслугаў... Не даведваюся я, ці хто з беларусаў стаўся істотнай для Амерыкі персонаю. Можа быць, Барыс Кіт у нуклеарных доследах...

**САКРАТ ЯНОВІЧ,**
**Гэйнэсвіл, кастрычнік.**

---

**З ЖЫЦЦЯ ЛЮДАЕДАЎ**

# БАЙ-ЛЮЛІ

Хоць словы песні -- несумненна слушныя, ніхто не мусіць зрывацца з седала пры першых яе гуках і стаяць з рукамі "па швам". Я ўстану, ушаную гімн дзяржавы сваёй ці іншай, гімны нашай малой Айчыны "Беласточчына" і айчыны духовай -- "Магутны Божа" ці "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Заспяваць і магу і славутае "бай-люлі", але не буду калыхацца з паўстаўшым тлумам, які, дружна ўзняўшыся, будзе азірацца на мяне, маўляў, ён супраць нас і нашых ідэалаў, не паважае нас і іх, калі вось так пяе, седзячы! Быў такі момант у сядзібе ГП БГКТ, калі я знайшоўся ў групе больш дзесяці гледачоў на адной імпрэзе, якія сарваліся да гімну (чаго ён гімн? "Мовы роднай?" Родная мова гэта не нейкае "бай-люлі"), а я прынцыпова сядзеў, хаця спяваў шчыра і гучна, разам з выступаючым хорам і публікай. Цяпер адзін з прысутных тады там людзей са мной не размаўляе. Глядзеў на мяне так страшна, што я адчуў сябе мала што няёмка; я пералякаўся і амаль не ўстаў, каб не быць белай варонай, чорнай авечкай і чымсьці там яшчэ.

І ў джунглях, і ў спецыяльных запаведніках усе істоты, каб выжыць, эвалюцыйна навучыліся ўтопліваца ў фоне -- ці то колерам, ці знерухоменнем, удаваннем нежывога ды нейкага кораня ці лістка. Умееш прыстасавацца -- пажывеш яшчэ. Не з'ядуць цябе ворагі, не будуць чапаць свае.

Лагоднае цялятка дзве маткі ссе, ціха едзеш -- далей будзеш, -- такі вопыт перадаецца з пакалення ў пакаленне. Думаю так: можа, таму і жывуць яшчэ беларусы, што прысвоілі мімікру? А калі ўжо "хто запытае -- беларус ты, добра знай".

Даю вам слова скаўта, што я абсалютна згодны з тэзамі згаданай песні, але -- пратэстую! Я супраць вершаў складзеных абы-як, абы толькі на належную тэму. Паэты ўсхвалялі камсамол, БАМ і еднасць партыі з народам, цяпер стогнуць над Мовай і Адраджэннем і Айчынай. А наш шчыры народ іх песні пяе. Я дазваляю яму пяяць і жыць, хай ён дасць жыць іншым. Можа, разам створым нешта новае? А паэты няхай пішуць вершы на нашай цудоўнай мове. Хай толькі робяць гэта сапраўды добра.

**АГАФОН БУЯЎКА**

---




**ЧАСТКА XIX**

# ВАЙСКОВЫ САЮЗ БЕЛАРУСІ З РАСІЯЙ

Ужо пасля мілітарных падзей пад будынкам Вярхоўнага Савета ў Маскве правёў я размову з прыблізна саракагадовым гандляром з Ваўкавыска, які прыехаў у Беласток у гандлёвых мэтах. Чалавек з Ваўкавыска не хацеў сказаць, якая ў яго прафесія і дзе ён працуе, аднак ахвотна выказваўся на тэму вайсковага саюза Беларусі з Расіяй. Вось вытрымкі з яго несумненна цікавага выказвання:

„Я не магу не думаць аб гэтай справе, хаця б з тае прычыны, што я не так даўно служыў у Савецкай Арміі, а таксама таму, што я — мужчына. Зразумела, што мы жывем у перыяд вялікай ломкі, на нашых вачах усё стала шыварат-навыварат. Яшчэ не так даўно здавалася, што Савецкі Саюз гэта вечная структура і што ніколі ёй не будзе канца. Тым часам на нашых вачах Гарбачоў і Ельцын развалілі тое, што мела трываць тысячы гадоў. То ж камунізм меў апанаваць увесь свет і ўсе народы свету мелі паслугоўвацца адной мовай! Нам у арміі не раз гаварылі, што гэтай мовай будзе руская. Калі прызнацца, дык і я не раз марыў аб тым, што на нейкім там Цэйлоне ці Мадагаскары або на Алясцы буду губернатарам ці нейкім там абласным сакратаром партыі, бо было вядома, што ўсіх на свеце перамажа Савецкі Саюз, гэта значыць — Расія. Ну, а вось сёння бачыце, замест губернатарства гандлюю на беластоцкім базары, а ўвесь мой тавар змяшчаецца на раскладушцы. Вы думаеце, што большасць рускіх не думала так, як думаў я? Думалі. Справа аднак не ў тым, што так думалі, але ў тым, што і ў далейшым думаюць падобным чынам, а што датычыцца мяне, то я ўжо сёння думаю па-іншаму. Сёння я ўжо не хачу быць рускім, так як хацеў амаль усё жыццё. А чаму я сёння думаю інакш? А таму, што мне сёння здаецца, што мы разумнейшы, чым рускія. Вы ж толькі падумайце, ці разумны народ можа так паступаць, як паступаюць рускія? Вазьміце, для прыкладу: справа путчу Янаева, Кручкова, Язава. Тады, як вядома, Ельцын разам з Руцкім і Хасбулатавым баранілі ад арміі Белы Дом. А трох забітых сярод абаронцаў былі патрактаваны як падзвіжнікі і пасмяротна атрымалі званні Герояў Савецкага Саюза. А зараз? А зараз у час путчу Ельцына ўсе абаронцы таго ж Белага Дома былі патрактаваны як здраднікі. Ельцын назваў іх прадстаўнікамі камуністычна-фашысцкай карычневай чумы. А тая ж сама руская армія затаўкла сотні абаронцаў Белага Дома і ўсе яны пахаваны не як гераічныя абаронцы, а толькі як праступнікі. Мабыць, усе яны ў адной або ў некалькіх ямах. Ну, дык скажыце, як усё гэта сцяміць? Прабачце, але ў такой сітуацыі я ўжо не хачу быць рускім. Мне здаецца, што мы, беларусы, разумнейшыя. Прынамсі, пакуль што. Яшчэ некалькі месяцаў таму назад я быў старонніком вайсковага саюза Беларусі з Расіяй, але сёння, пасля штурму Белага Дома ўжо ім не з'яўляюся. Я маю семнаццаці- і васемнаццацігадовага сыноў. Ім трэба ісці ў армію. Мне прыснілася, што адзін з іх бараніў Белы Дом, а другі — атакаваў і абодва яны былі забіты. Паверце, што прачнуўся я такі ўспацелы, быццам бы мяне з вады выцягнулі. Ну, а калі б гэты вайсковы саюз Беларусі з Расіяй стаў рэчаіснасцю, дык нешта такое магло б быць праўдаю, а не сном! Тое, што сталася ў Маскве, яшчэ станецца не раз і не ў адной Маскве. Дык няхай мае сыны служаць у беларускай арміі і няхай ніякі саюз не будзе ў стане прымусіць іх прымаць удзел у путчах, арганізаваных Янаевымі, Ельцынымі ці нейкімі іншымі неадказнымі палітыкамі. Я за дружбу і супрацоўніцтва Беларусі з Расіяй, але толькі як незалежных дзяржаў".

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

## ТОСТЫ

Аднойчы марознай зімою замёрз маленькі верабейчык. Яго абледзянелае цела ўпала на зямлю. Карова, якая праходзіла сюдою, задзерла хвост і шляпнула на вераб'я свой блінец. У гнаі верабейчык адагрэўся, прыйшоў да сябе і з радасці стаў голасна чырыкаць. Побач прабягала кошка, схапіла верабейчыка і тут жа яго пажэрла.

Дык вып'ем і запомнім:

— Не кожны, хто цябе апаскудзіў, твой вораг. Не кожны, хто выцягнуў цябе з дзярма, твой прыяцель. А калі ты папаў у гаўно, дык сядзі і не чырыкай!

* * *

Здрадзіла жанчына мужу адзін раз — са сцэны выпала цэгла. Здрадзіла другі раз — выпала другая цэгла... Дык вып'ем жа за жанчын, перад якімі развальваюцца сцэны!

## СЕНТЭНЦЫІ

Восень бы жанчына — малюе свой твар каляровай памадай.

* * *

Дождж — гэта слёзы надвор'я на пахаванні засухі.

* * *

У даспелым яблыку — смак квітнеючай яблыні.

**БАРЫС РУСКО**






*Мал. Л. Гадуна*

## З НАШАГА ЖЫЦЦЯ

— Прашу вашай дапамогі. Месяц таму прадаў я бульбу адной жанчыне, а яна не хоча заплаціць, — звяртнуўся да паліцыянта гаспадар Іван. — Казала, што праз тыдзень дасць грошы, а цяпер, што аддасць пазней.

— А дзе яна жыве?

Іван расказаў.

— А, мы яе ведаем. Адкуль у яе грошы? Трэба было так не аддаваць.

— Махні ты рукою на грошы за бульбу, — параіў Івану сусед. — Запрапануй, каб аддала ў натуры, гэта ж яе не будзе нічога каштаваць.

* * *

— Чаму, Іване, ты так многа п'еш? Ты ж раней і не нюхаў спіртнога!

— Гэта з радасці. Нявестка ў нас зацяжарыла. Унук будзе!

Нарадзілася дзяўчынка. Іван зноў п'яны ходзіць.

— Ну, чаго ж ты п'еш цяпер? Нічога, што ўнучка, гэта ж таксама радасць у хаце!

— Цяпер я п'ю з гора. Яшчэ адна баба на маю галаву!

* * *

Прыехаў з санаторыя муж увесь у бінтах.

— Алесь, што з табою?! — заламала рукі жонка.

— Не скажу.

Жонка забінтавала ката.

— Зіна, што гэта такое з нашым катом? — здзівіўся Алесь.

— Мікіта вярнуўся з кашэчага санаторыя.

**АЎРОРА**

## ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

*(працяг; пачатак у 40 н-ры)*

### ВОДНЫЯ ІСТОТЫ

#### Русалка Камсамольскага возера

Сапраўдных русалак на Беларусі практычна не засталося — гэтыя істоты, якія вызначаюцца звышчалавечай юрлівасцю, падчас II сусветнай вайны задавальнялі патрэбы не толькі партызан — расейска-камуністычных дывертсантаў, пакінутых на акупаванай тэрыторыі, але і супрацоўнічалі з нямецка-фашысцкімі захопнікамі і калабарантамі. Пасля аднаўлення савецкай улады тыя русалкі, што не паспелі ўцячы за мяжу, былі бязлітасна вынішчаны органамі НКУС-МДБ. Так, па сведчанням аднаго ведзьмака з вёскі Купа, што на Нарачы, савецкі афіцэр у форме капітана МДБ расстраляў ягоную знаёмую русалку за тое, што знайшоў пры ёй фотаздымак салдата вермахта, з надпісам „Майн гэшэфт майн лібе мэдхен" („Мой падарунак улюбёнай дзяўчынцы"). Таму адзіным вартым даверу сведчаннем з'яўлення русалак за пасляваенны час застаецца крымінальная справа за 1980 год, што захоўваецца ў архіве Старажоўскага аддзела МУС. Справа была недаведзена да канца і закрыта з тае прычыны, што сярод пацярпелых не было аніводнага законапаслухмянага грамадзяніна.

Яшчэ са сталінскіх часоў каля грэблі Камсамольскага возера, што ў цэнтры Менска стаяла жалезабетонная скульптура піянеркі з вяслом, магутныя формы якой любілі прыводзіць у прыклад аматары начных мілаванняў. Дзяўчыны, схільныя да распусты, нават утварылі традыцыю — чапляць на скульптуру станікі ды майткі і пакідаць нумары тэлефонаў, выкананыя губной памадай. Такі стан рэчаў, здавалася задавальняў усіх менчукоў, але аднойчы пажадлівец — старшыня Старажоўскага райвыканкама, жадаючы задаволіць сваю мужчынскую патрэбу, шукаў адпаведныя тэлефоны, і знайшоў тэлефон сваёй кватэры, які, як высветлілася, пакінула ягоная жонка. Побач з лічбамі было ўдакладненне: „Бярэ ў рот. Выключнае задавальненне". Раззлаваны старшыня выклікаў бульдозер, і скульптуру скінулі ў возера. Але гісторыя на гэтым не канчаецца: літаральна праз тыдзень міліцыянты знайшлі на беразе труп невядомага каўказскай нацыянальнасці. Босыя жаночыя сляды вялі ад яго ў ваду. Экспертыза ўстанавіла, што каўказец памёр ад козытаў. Было вылучана мноства версій, але ніводная не пацвердзілася. На ўсялякі выпадак міліцыянты затрымалі ўсіх навакольных прастытутак, але вымушаны былі выпусціць іх на волю. Падобныя загадкавыя забойствы сталі рэгулярнымі, і тады начальнік пастарунка загадаў сутэнёрам, якія здзіліся з ім прыбыткам: „Калі не знойдзеце і не абясшкодзіце дзеўку-забойцу, я прыкрыю ваш бізнес!" Сутэнёры, папярэдне ўзброіўшыся кавалкамі арматуры, наладзілі начное дзяжурства, бо губляць перспектыўнае месца, якраз насупраць новабудоўлі гатэля „Беларусь" не хацелася. У ноч з 10 на 11 чэрвеня дзяжурства неслі сутэнёры П. і Х. Раптам яны заўважылі, як з вады вылезла на прычал лодачнай станцыі нейкая невядомая ім дзеўка з вяслом у руках. Заўважыўшы мужчын, дзеўка яшчэ здалёк запрапанавала свае паслугі, але дзяжурных насцярожылі дзве акалічнасці: па-першае, яна не хацела выпускаць вясло з рук, а па-другое — прапаноўвала паслугі бясплатна. Больш сквапны П. усё ж такі рызыкнуў. Яны леглі ў лодку, і Х., які згадзіўся несці дзяжурства за дваіх, раптам пачуў нястрымны рогат калегі. Калі ён падбег і зазірнуў у лодку, то ўбачыў, што дзеўка казыча цыцкамі сябру. Нядоўга думаючы, Х. урэзаў арматурай па дупе — ён ледзь не звар'яцеў, убачыўшы, што ад дупы адваліўся вялікі кавалак жалезабетону, агаліўшы дротавы каркас. Але жалезабетонная дзеўка працягвала казытаць П., які выдаваў з сябе перадсмяротныя стогны. Падняўшыся з нябожчыка, скульптура замахнулася на Х. вяслом, але той зноў ударыў яе арматурай — дзеўка рассыпалася на кавалкі.

Вядома, начальнік пастарунка не паверыў расказанай гісторыі, але, тым не менш, забойствы спыніліся.

Гэтае здарэнне яшчэ раз пераконвае ў тым, што нельга псаваць помнікі гісторыі і культуры, пакідаючы на іх надпісы, зробленыя нават губной памадай — хай сабе і з намерам падзяліцца радасцю...

*(Працяг будзе)*

Падрыхтавалі
**ФРАНЦІШАК ХЛУС**
**І МАРЦІН ЮР**




*Мал. Л. Гадуна*




Дарагое Сэрцайка! Калі я была маладая, не ўяўляла нават, што мая будучыня будзе такая сумная. Тады не задумвалася доўга. Даведалася, што муж здраджвае, праверыла, пераканалася — і падала на развод. Развод, праўда, атрымала не адразу, суд яшчэ прабаваў нас памірыць. Але як жа я магла яму дараваць яго адносіны да мяне і сына, калі ён з намі зусім перастаў лічыцца, не даваў грошай, часта не вяртаўся нанач. Калі я прыходзіла на працу, мне здавалася, што іншыя нічога не робяць, а толькі глядзяць на мае запухлыя ад плачу вочы. Мне было сорамна і горка.

Пасля разводу мой былы муж пераехаў у іншы горад, а я засталася з сынам. Я была маладая, мне не было і трыццаці гадоў, жылі яшчэ ж і бацькі, якія ўсё гатовыя былі аддаць за ўнука. У мяне была свая кватэра, я добра зарабляла. Адышоў муж — стала адным ротам менш.

Нягледзячы на ўсё гэта, я гады два не знаходзіла сабе месца. А пасля ізноў уключылася ў жыццё. Пачала шторазчасцей сустракацца з сяброўкамі, знаёмымі. На мужчын мне спачатку і глядзець не хацелася, так мне абрыдзіў іх мой муж. Але праз нейкі час я адкрыла харáство вольнага жыцця. Пачала сустракацца то з адным, то з другім мужчынамі, і гэта мне спадабалася. Ніякіх абавязкаў, хачу — запрашаю кагосьці, хачу — не. Не трэба, як кажуць, мыць кальсоны, дагаджаць мужу. Паколькі я жыла толькі з сынам, дык і варыла, і мыла няшмат. Зрэшты, сын хутка вырас, мала ў хаце бываў, а пасля ажаніўся і выехаў на Захад. Бацькі мае тым часам памерлі, і я засталася практычна адна. Мужчыны былі надалей, але неяк перасталі цешыць.

Калі былі ў маёй хаце людзі, мне было весялей. Горш было, калі ўсе разыходзіліся па хатах. Праўда, часамі нехта з мужчын заставаўся са мной да раніцы, і мне было прыемна — раз, што я не адна, два — што яшчэ некаму падабаюся. Аднак, сэнсоўнага кандыдата на мужа як не было, так не было.

Асабліва цяжка мне ў святы, калі ўсе ў сям'і, а я адна, або ў найлепшым выпадку ў нейкай таксама самотнай сяброўкі. Сумна.

І вось нядаўна сын зрабіў мне неспадзяванку і прыехаў з жонкай і дзіцём з далёкай Амерыкі аж на 2 месяцы. Хата напоўнілася гоманам і смехам маладосці. Дзіця вішчэла, я ўвесь час то стаяла на кухні, выпякаючы ім пірагі ды іншыя смакоцці, то падавала на стол, то карміла дзіця. Змучылася страшэнна, не маліявалася, не строілася, але была... шчаслівая. Шчаслівая, бо ведала, што ёсць для каго жыць, што раблю нешта карыснае, патрэбнае маім дзецям. Хацелася жыць!

І цяпер я думаю, што кепска зрабіла, не выходзячы другі раз замуж. Можа, мела б нейкі сэнс жыцця, можа нарадзіла б яшчэ дзіця. А так... Я ўжо нават думала, ці не паехаць да сына ў тую Амерыку, але што ж я там буду рабіць?! Тут у мяне добрая праца, а там што, буду туалеты мыць?.. Мо ты мне штосьць параіш, Сэрцайка?

**Броня**

Броня! Малады чалавек думае, што ён заўсёды будзе малады, здаровы і прыгожы, а галоўным яго заняткам будуць уцехі і разрыўкі. Пра старасць ці самотнасць думаюць толькі адзінкі. А жыццё ёсць жыццё — цвёрдае, брутальнае і бескампраміснае. Ты прагуляла маладосць і засталася табе на старасць самота.

Пытаеш, што рабіць? Пэўна, у Амерыцы ты будзеш нічым. А не працаваць — нельга, бо хто цябе там будзе ўтрымліваць?! Я думаю, што найлепш было б да часу да тыя праехацца да сына ў госці, пасядзець там крыху (не занадта доўга), дапамагчы ім. Думаю, што на білет ён табе нейкую суму прызначыць. Хай і яны прыязджаюць. Калі будзеш адносіца да сына сардэчна, а не маргінальна, гэта можа вярнуць табе сэнс жыцця.

**СЭРЦАЙКА**